# РОЗГАЛАС

### УДЗЕЛЬНІКАМ СВЯТКАВАННЯ Ў г. ПОЛАЦКУ 825-ГОДДЗЯ БЛАЖЭННАЙ СМЕРЦІ ПРАПАДОБНАЙ ЕФРАСІННІ, ІГУМЕННІ ПОЛАЦКАЙ

Дарагія суайчыннікі і паважаныя госці!

Сёння вы сабраліся ў святым для кожнага жыхара Беларусі горадзе Полацку, горадзе, дзе была закладзена аснова дзяржаўных, гістарычных і культурных традыцый беларускага народа. Актыўна ўдзельнічала ў гэтым працэсе і Праваслаўная царква. Полацк — гэта горад, адкуль пачало распаўсюджвацца праваслаўе ў Беларусі і ўласцівыя яму каштоўнасці: міласэрнасць, міралюбнасць, спачуванне. З полацкай зямлёй звязана жыццё і дзейнасць чатырох святых Рускай праваслаўнай царквы: прападобнай Ефрасінні Полацкай, свяціцеля Міны, свяціцеля Дзіянісія, свяціцеля Сімяона — епіскапаў полацкіх.

Сярод іх асаблівае месца займае прападобная Ефрасіння Полацкая, 825 гадоў з дня яе блажэннай смерці адзначае сёння беларускі народ.

Дзейнасць святой Ефрасінні — гэта яркае адлюстраванне кардынальных духоўных пераўтварэнняў, якія адбываюцца ў грамадскім жыцці Беларусі ў XII стагоддзі. Менавіта тады закладваўся і ўмацоўваўся фундамент новага разумення свету, ствараліся перадумовы для развіцця чалавека, разумення яго як непаўторнага Боскага тварэння.

Духоўны ўплыў беларускай асветніцы Ефрасінні Полацкай выйшаў далёка за межы яе эпохі. Імя, справы і вобраз падзвіжніцы крышталізаваліся ў часе і набылі вышэйшую якасць нацыянальнага сімвалу самаадданага служэння высокім ідэалам, вернасці сваёй Радзіме.

Святая Ефрасіння, будучы ігуменняй гэтага манастыра, клапацілася аб тым, каб вучні яе разам з граматай вучыліся таксама «чысціні душэўнай і бясстрашнасці цялеснай». Гэта тое, чаго сёння нам так часта не хапае.

Стараннямі прападобнай Ефрасінні быў створаны унікальны шэдэўр старажытнабеларускага мастацтва — Крыж, названы імем святой.

Гістарычнай падзеяй у жыцці нашай рэспублікі з'явілася аднаўленне і пакладанне ў верасні 1997 года ў Полацкім Спаса-Ефрасіннеўскім манастыры Крыжа, адноўленага па вобразу і падабенству Крыжа прападобнай Ефрасінні Полацкай. Крыж, што знаходзіцца цяпер у гэтым святым манастыры старажытнага Полацка, стаў духоўным цэнтрам нашай зямлі, сімвалам адраджэння і працвітання Беларусі.

Святая Ефрасіння Полацкая і справа яе зямнога жыцця і ў наш час з'яўляюцца прыкладам для ўсіх нас.

Жадаю ўсім удзельнікам урачыстасцяў сіл і здароўя для высакароднай справы духоўнага адраджэння і яднання народаў. Веру, што агульнымі намаганнямі мы прыйдзем да дабратыту і працвітання.

Міру і дабра Вам!

**Аляксандр ЛУКАШЭНКА.**

5 чэрвеня 1998 г.

## ДЭКРЭТ

## Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь

### № 8

### АБ НЕКАТОРЫХ ПЫТАННЯХ ПАДАТКААБКЛАДАННЯ І ПЛАЦЯЖОЎ У БЮДЖЭТ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ У 1998 ГОДЗЕ

У мэтах павелічэння паступленняў у бюджэт Рэспублікі Беларусь свабодна канверсоўнай валюты і расійскіх рублёў на аснове ўпарадкавання падаткаабкладання знешнеэканамічных і валютных аперацый і ў адпаведнасці з часткай трэцяй артыкула 101 Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь **пастанаўляю:**

1. Устанавіць, што ў 1998 годзе:

1.1. не абкладаюцца падаткамі на прыбытак і на дабаўленую вартасць даходы, атрыманыя ў выніку ўтварэння станоўчых курсавых розніц паміж афіцыйным курсам Нацыянальнага банка і курсам продажу замежных валют пры заключэнні здзелак куплі-продажу на дадатковай гандлёвай сесіі дзяржаўнай установы «Міжбанкаўская валютная біржа»;

1.2. спаганяюцца ў свабодна канверсоўнай валюце і расійскіх рублях:

1.2.1. збор з уладальнікаў (карыстальнікаў) аўтатранспартных сродкаў замежных дзяржаў за праезд гэтых сродкаў па аўтамабільных дарогах агульнага карыстання Рэспублікі Беларусь;

1.2.2. плата з уладальнікаў (карыстальнікаў) цяжкавагавых і буйнагабарытных аўтатранспартных сродкаў замежных дзяржаў за праезд гэтых сродкаў па аўтамабільных дарогах Рэспублікі Беларусь;

1.2.3. плата з нерэзідэнтаў Рэспублікі Беларусь за праезд па аўтамабільнай дарозе Брэст—Мінск—граніца Расійскай Федэрацыі;

1.2.4. падатак на даходы замежных юрыдычных асоб, якія не ажыццяўляюць дзейнасць у Рэспубліцы Беларусь праз пастаяннае прадстаўніцтва, ад рэалізацыі тавараў, увезеных на тэрыторыю Рэспублікі Беларусь для дэманстрацыі на выстаўках, выстаўках-продажах, кірмашах;

1.2.5. патэнтныя зборы і пошліны з нерэзідэнтаў Рэспублікі Беларусь;

1.2.6. мытная пошліна, акцыз і падатак на дабаўленую вартасць пры ўвозе на мытную тэрыторыю Рэспублікі Беларусь тавараў суб'ектамі гаспадарання, якія маюць ліцэнзіі Нацыянальнага банка на іх рэалізацыю ў Рэспубліцы Беларусь за замежную валюту;

1.2.7. мясцовыя падаткі і зборы ў пагранічнай зоне з нерэзідэнтаў Рэспублікі Беларусь;

1.2.8. мытныя плацяжы пры перамяшчэнні фізічнымі асобамі праз мытную граніцу Рэспублікі Беларусь рэчаў звыш нормаў, устаноўленых заканадаўствам;

1.2.9. мытныя плацяжы пры ўвозе на тэрыторыю Рэспублікі Беларусь фізічнымі асобамі транспартных сродкаў (код па Таварнай наменклатуры знешнеэканамічнай дзейнасці Садружнасці Незалежных Дзяржаў 8703).

2. Гэты Дэкрэт уступае ў сілу з дня яго апублікавання, з'яўляецца часовым і ў адпаведнасці з часткай трэцяй артыкула 101 Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь прадстаўляецца на разгляд Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь.

**Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь А. ЛУКАШЭНКА.**

5 чэрвеня 1998 г.
г. Мінск.

## СЁННЯ

### ІМЯНІНЫ

ПР. Сімяона

К. Норберта-біскупа

### МЕСЯЦ

**Першая квадра 2 чэрвеня**

*З 16.41 — 13-ыя месяцавыя суткі.*
*З 7.07 Месяц — у сузор'і Скарпіёна.*

### НАДВОР'Е

Сёння ўдзень па рэспубліцы захаваецца пераменная воблачнасць, без ападкаў. Тэмпература паветра ў Віцебску — 19—21, Магілёве — 21—23, Мінску, Гомелі — 22—24, Гродне — 23—25, Брэсце — 25—27 градусаў цяпла.

У наступныя двое сутак пераважна без ападкаў, толькі 7-га на поўначы пройдуць кароткачасовыя дажджы, навальніцы. Тэмпература ўначы — 12—17, удзень 7-га — 23—28, на захадзе да 30, 8-га — 25—30 градусаў вышэй нуля.

## ДАБРАБЫТ ДЗЯРЖАВЫ — ТОЛЬКІ ПРАЗ «ЖАНОЧУЮ РЭВАЛЮЦЫЮ»?..

**У 525 годзе царкоўнікі доўга спрачаліся над тым, ці з'яўляецца жанчына чалавекам, і толькі з перавагаю ў адзін голас пастанавілі: жанчына — таксама чалавек. Другой знамянальнай для жанчын усяго свету падзеяй стала прызнанне моцнай палавінай чалавецтва таго факта, што жанчыны карыстаюцца далёка не ўсімі правамі, якія здаўна належаць мужчынам. Праўда, для гэтага мужчынам спатрэбілася амаль паўтары тысячы гадоў і Канвенцыя аб ліквідацыі ўсіх формаў дыскрымінацыі ў адносінах да прыгожага полу была прынята ААН толькі ў 1978 годзе. У апошнія гады да феномену, які атрымаў назву «жаночай рэвалюцыі» далучыліся, нарэшце, і беларускія жанчыны, якія пачалі актыўна заяўляць аб сваіх правах услых. А нядаўна Беларускі саюз жанчын арганізаваў у Гомелі міжнародную канферэнцыю «Жанчына. Сям'я. Здаровы лад жыцця», у якой прынялі ўдзел дэлегацыі з дзевяці краін свету...**

Згодна са статыстыкай, 70 працэнтаў усіх работ у свеце выконваецца жанчынамі, у той жа час аплата іх працы не перавышае 10 працэнтаў у тым жа параўнанні і толькі адзін працэнт сусветнай уласнасці належыць жанчынам. Дыскрымінацыя жанчын у аплаце іх працы назіраецца на планеце практычна ва ўсіх развітых краінах: так, напрыклад, у Злучаных Штатах Амерыкі за выкананне адной і той жа работы мужчыны атрымліваюць 1 долар, а жанчыны — толькі 73 цэнты (тры гады таму было 69 цэнтаў). У Францыі ж розніца ў зарплаце мужчын і жанчын складае 30 працэнтаў. На жаль, і беларусам у гэтым сэнсе ганарыцца няма чым: як сведчаць сацыялагічныя даследаванні, у нашай краіне лічаць сябе жабракамі — 10, беднымі — 53,8 працэнта жанчын, а вось багатымі не лічыць сябе ніхто з іх.

Асноўную частку беспрацоўных (65,5 працэнта) складаюць у Беларусі менавіта жанчыны. Прычым для нашай рэспублікі характэрна жаночае «інтэлектуальнае» беспрацоўе: колькасць жанчын з сярэдняй спецыяльнай і вышэйшай адукацыяй перавышае 30 працэнтаў ад агульнай колькасці ўсіх беспрацоўных. Нягледзячы на больш высокі ў параўнанні з мужчынамі адукацыйны ўзровень жанчын, дзяржава прапануе ім перанавучацца на спецыяльнасці, якія не патрабуюць вялікага адукацыйнага патэнцыялу (сакратароў-рэферэнтаў, швачак-матарыстак, бухгалтараў), у выніку чаго жанчыны адчуваюць сябе некамфортна. Але ў самым горшым становішчы знаходзяцца маладыя жанчыны, якім работадаўцы, а гэта ў асноўным мужчыны, адмаўляюць у рабоце толькі таму, што не жадаюць адпускаць іх даглядаць хворых дзяцей ці ў дэкрэтныя водпускі. І аб правах жанчын на працу, заўважым, ніхто пры гэтым не ўспамінае.

І ўсё ж дзеля справядлівасці прыходзіцца канстатаваць, што і самі беларускія жанчыны не праяўляюць дастатковай актыўнасці, каб змяніць сваё матэрыяльнае становішча ў лепшы бок: практычна кожная другая з іх нічога для гэтага не робіць, і толькі 10 працэнтаў беларусак лічаць, што ў іх ёсць усе неабходныя якасці для дасягнення поспеху ў жыцці.

У той час, калі асноўнай сферай жаночай працы і інструментам паляпшэння ўласнага дабрабыту ва ўсім свеце становіцца ў апошнія гады малы бізнес, у Беларусі камерцыяй заняліся толькі 2,7 працэнта жанчын і 9,1 працэнта мужчын. З апытанняў вынікае, што жанчыны больш за мужчын разлічваюць на дапамогу дзяржавы і ўпэўненыя ў тым, што менавіта яна павінна клапаціцца аб іх матэрыяльным дабрабыце.

Своеасаблівай лакмусавай паперкай сацыяльных і эканамічных праблем нашага грамадства стала беларуская сям'я. За апошнія два-тры гады ў сувязі з цяжкімі эканамічнымі ўмовамі жыцця адмовіліся ад нараджэння другога і першага дзіцяці ці адклалі гэту падзею на больш позні тэрмін больш як 30 працэнтаў сем'яў, у якіх муж і жонка знаходзяцца ў рэпрадуктыўным узросце. Не менш сумна выглядаюць і наступныя лічбы: за рысай беднасці жыве сёння амаль палова беларускіх сем'яў, і нават сям'я з адным дзіцем вымушана выдаткоўваюць на харчаванне да 60 працэнтаў свайго бюджэту. У сучасны момант у Беларусі на нараджэнне аднаго немаўляці прыпадаюць два аборты. А колькасць скасаваных шлюбаў павялічылася ўжо на 30 працэнтаў (пры 25-працэнтным скарачэнні колькасці зарэгістраваных шлюбаў).

Па-ранейшаму асноўнае месца жанчыны ў доме — ля кухоннай пліты, адпаведна, не існуе і роўнага падзелу хатніх абавязкаў у большасці сем'яў. Неабходнасць жа несці двайную нагрузку (на працы і ў сям'і) натуральным чынам адбіваецца не толькі на фізічным і псіхічным здароўі жанчыны, але і на яе дзецях. Дзяўчынак з маленства прывучаюць да думкі, што галоўныя жаночыя вартасці — гэта пакорлівасць і цярплівасць. Прычым усведамленне «другасортнасці» жанчын настолькі глыбока жыве ў нашым грамадстве, што, як сведчаць сацыялагічныя апытанні, ні пры якіх абставінах не сталі б падтрымліваць кандыдатаў-жанчын 65 працэнтаў мужчынскага і 35 працэнтаў жаночага электарату! І гэта пры тым, што ў Беларусі жаночае насельніцтва краіны складае 53,5 працэнта, ці больш за палову ўсіх выбаршчыкаў. Лагічным на фоне гэтай статыстыкі выглядае той факт, што колькасць жанчын у Палаце прадстаўнікоў складае зараз толькі 4,5 працэнта (5 чалавек), у Савеце Рэспублікі — 31 працэнт (19 чалавек) і ў Савеце Міністраў — 29,4 працэнта. Акрамя таго, толькі адна жанчына ў Беларусі займае пасаду міністра.

Пры такім менталітэце сур'ёзна паўплываць на прыняцце рашэнняў на дзяржаўным узроўні беларускія жанчыны будуць яшчэ няхутка. Для прыкладу: у скандынаўскіх краінах 40 працэнтаў парламентарыяў складаюць на сённяшні дзень жанчыны. Акрамя таго даказана, што ўздзеянне жанчын на працэс выпрацоўкі і прыняцця рашэнняў становіцца рэальным толькі тады, калі іх прадстаўніцтва ва ўладных структурах перавышае 30 працэнтаў. Відавочна, што без удзелу жанчын у палітыцы іх інтарэсы і прыярытэты на першы план выходзіць ніколі не будуць...

**Надзея НІКАЛАЕВА.**

## ФРАНЦУЗСКІЯ ЖАНЧЫНЫ КІРУЮЦЬ САМАЛЁТАМІ, АТРЫМЛІВАЮЦЬ ОРДЭНЫ І... СУР'ЕЗНА РАЗМАЎЛЯЮЦЬ СА СВАІМІ МУЖЧЫНАМІ

***Аб з'яўленні ў беларускім урадзе міністра па жаночых пытаннях беларускія жанчыны могуць толькі марыць. А вось у французскім урадзе такая пасада ёсць, і займае яе, зразумела, жанчына. Расказаць нашым чытачам аб французскай сям'і і праблемах сучаснай французскай жанчыны мы папрасілі былога міністра па жаночых пытаннях, а сёння — намесніка мэра г. Клермон-Ферана Мішэль Андрэ, якая прымала ўдзел у міжнароднай канферэнцыі «Жанчына. Сям'я. Здаровы лад жыцця», што прайшла ў Гомелі.***

**— Мішэль, беларускія навукоўцы-дэмографы прадказваюць нам, што калі сённяшнія тэмпы падзення нараджальнасці і росту смяротнасці ў рэспубліцы захаваюцца, то праз пэўны час беларусы ўвогуле могуць знікнуць як нацыя. Цікава было б даведацца, а якая сітуацыя з нараджальнасцю складваецца ў вашай краіне?**

— З кожным годам нараджэнне першага дзіцяці ў французскіх сем'ях усё больш адцягваецца, што тлумачыцца, па-першае, імкненнем нашых жанчын спачатку атрымаць прафесію, уладкавацца ў жыцці, а ўжо толькі потым абзаводзіцца дзецьмі, і, па-другое, наяўнасцю ў нас добрых кантрацэптычных сродкаў. Большасць французанак нараджае зараз першае дзіця ў 28 гадоў, што намнога пазней, чым было 25 гадоў таму. У сярэднім жа на французскую сям'ю прыпадае 1,7 дзіцяці, а вось колькасць сем'яў з чатырма-пяццю дзяцьмі ў нас значна зменшылася.

Што датычыцца вашага пытання, ці не баімся мы знікнуць як нацыя, я вам адкажу так. Калісьці мой школьны настаўнік-географ гаварыў нам, што мы жывём у эпоху, калі на планеце ствараецца зусім новы народ, новая цывілізацыя, бо ўсе мы атрымалі магчымасць пераязджаць з краіны ў краіну, з кантынента на кантынент. Тады мяне яго словы вельмі ўразілі, бо я не магла змірыцца з думкаю, што жыву ў краіне, якая калі-небудзь знікне са свету. Але калі я пасталела, то зразумела, што мой настаўнік меў рацыю, і ў гэтым няма ніякай трагедыі: ёсць іншыя народы, іншыя радасці, і да таго часу, пакуль будуць існаваць мужчыны і жанчыны і яны будуць шчаслівыя, у іх будуць нараджацца дзеці.

**— А ці заахвочвае ваша дзяржава нараджэнне ў сем'ях большай колькасці дзяцей?**

— Вы ведаеце, ужо даўно заўважана, што сем'ям, якія выхоўваюць больш як трое дзяцей, патрабуецца шмат грошай. Таму палітыка правых партый была нацэлена ў свой час на павышэнне нараджальнасці шляхам выдзялення фінансавай дапамогі з боку дзяржавы. Але цяпер большасць краін прыйшла да высновы, што ні дапамога сем'ям у набыцці жылля, ні якая-небудзь іншая сацыяльная дапамога павелічэнню колькасці народжаных немаўлят не спрыяюць, і развіталася з гэтымі ідэямі. Таму крывая нараджальнасці ў нас зараз скачкападобная. Я асабіста лічу, што дзеці павінны з'яўляцца на свет толькі тады, калі муж і жонка шчаслівыя, калі ў іх ёсць выбар і жанчына сама вырашае, з'явіцца на свет яе дзіця ці не.

**— Мішэль, а ці існуе ў Францыі нешта накшталт нашага дэкрэтнага водпуску і хто даглядае ў вас немаўлят?**

— У нас водпуск, звязаны з нараджэннем дзяцей, складае 16 тыдняў, якія цяжарная жанчына можа браць, калі пажадае, але не пазней за 2 тыдні да родаў. У выпадках паталагічнай цяжарнасці водпуск адпаведна павялічваецца. У Францыі, заўважу, вельмі добра развітая сістэма нагляду за маленькімі дзецьмі. Адны аддаюць сваё немаўля ў яслі, прычым яслі ў нас існуюць самыя розныя, напрыклад, хатнія яслі, якія арганізуюцца ў любым доме. Іншыя запрашаюць у свой дом выхавальнікаў. І ўсё гэта даступна для сярэдняй французскай сям'і, бо існуе дзяржаўная дапамога.

**— У Беларусі нярэдкія выпадкі, калі цяжарнай ці маладой жанчыне адмаўляюць у рабоце. Ці магчыма ўзнікненне такой сітуацыі ў вашай краіне?**

— Такія дзеянні лічацца ў нас процізаконнымі і вельмі сурова караюцца. Хаця раней і ў нас таксама работадаўцы гаварылі, што не трэба браць на работу жанчын, якія народзяць дзіця і пакінуць працоўнае месца. Аднак калі пачынаеш прыглядацца параўноўваць, то прыходзіш да высновы, што мужчыны працуюць значна менш за жанчын, і гэта нягледзячы на той факт, што на жанчынах трымаюцца яшчэ і дом, і дзеці, і хатняя праца. Проста жаданне працаваць у прыгожай палавіны чалавецтва значна большае, бо жанчыны баяцца скасавання шлюбу, баяцца застацца адны ў жыцці, таму і гатовы рабіць усё, каб захаваць за сабой працоўнае месца. Між іншым, у Францыі распадаецца кожная трэцяя пара, прычым у 70 працэнтах выпадкаў ініцыятарамі скасавання шлюбаў з'яўляюцца жанчыны.

**— Мішэль, раскажы, калі ласка, якіх вышынь дасягнулі французанкі ў прафесійным плане?**

— Цяпер французскія жанчыны могуць займацца ў нашай краіне любой дзейнасцю: служыць у арміі, быць пажарнымі, кіраваць самалётамі. Толькі вось мужчыны яшчэ хвалююцца, калі бачаць жанчыну ў незвычайнай для яе ролі. Аднойчы я ляцела на самалёце і адчула хваляванне вельмі многіх пасажыраў-мужчын, таму што кіраўніком экіпажа нашага самалёта была жанчына. Я пачула, як адзін пан казаў другому: «О! Гэта жах! Жанчына-пілот...» Тады я ў яго спытала: «Якія ў вас праблемы?» — «О, нам не пашанцавала — у нашым самалёце ляціць яшчэ і былы міністр па справах жанчын», — сказаў ён свайму сябру. Але калі жанчына-пілот вельмі мякка пасадзіла свой самалёт на аэрадроме ў Парыжы, гэтыя паны не знайшлі што і сказаць.

Таксама я ведаю жанчыну, якая носіць званне генерала медыцынскай службы і ўзнагароджана за мужнасць ордэнам «Ганаровага легіёна». Яна неаднаразова скакала з парашутам. Дык вось, калі яна скакала першы раз, капітан ёй «паспачуваў»: «Мадам, вы разумееце, для вас гэта напэўна вельмі цяжка, бо вашы грудзі...» На што яна адказала яму: «Прабачце, але тое, што ў вас знаходзіцца ніжэй пояса, вам служыць не перашкаджае». А калі падчас тэлевізійнай перадачы журналіст спытаў, як да яе звяртацца — «генерал» ці «генеральша» — ён атрымаў у адказ: «Генерал! Таму што генеральша атрымлівае свае пагоны ў ложку генерала...»

**— Мішэль, беларускія жанчыны яшчэ толькі пачынаюць змагацца за свае правы. Не магла бы ты падказаць ім які-небудзь свой «рэцэпт» дасягнення поспеху...**

— Калі я 25 гадоў таму пачынала сваю палітычную кар'еру, мы ўсе разважалі прыкладна так, што калі жанчына ўваходзіць у якую-небудзь структуру, то яна можа ўплываць на тое, што адбываецца ў краіне. Так, мужчыны нас слухалі, але ўсе роўна рабілі ўсё па-свойму. І тады мы вырашылі дзейнічаць праз палітычныя партыі, бо толькі ўлада мае рэальную моц, у чым я дадаткова ўпэўнілася, калі працавала міністрам. Мы змагаліся за стварэнне ў рамках сацыялістычнай партыі, да якой я належу, сістэмы квот: спачатку гэта былі 10, затым 20 працэнтаў, а падчас апошніх выбараў мы згадзіліся падтрымліваць сацыялістычную партыю толькі пры ўмове вылучэння 30 працэнтаў кандыдатаў-жанчын. Зразумела, выбраны былі не ўсе з іх, але грамадская думка нас падтрымала.

Дарэчы, калі я прыехала ў Клермон-Феран, з 55 дэпутатаў тут былі толькі 3 жанчыны, затое ў дадзены момант нас ужо 40 працэнтаў. Такім чынам, я хачу сказаць беларускім жанчынам, што ад размоў кшталту «я незадаволена», «трэба ўсё змяніць» нічога вакол нас змяніцца не можа. З мужчынамі трэба размаўляць, але размаўляць сур'ёзна, бо кожны раз, калі мы прымаем якія-небудзь рашэнні, яны нам апладзіруюць і... усё застаецца на сваіх месцах.

**Гутарку вяла Надзея НІКАЛАЕВА.**

# ВЫЯЗНАЯ ПРЫЁМНАЯ

**«Звязда» сумесна з Федэрацыяй прафсаюзаў, работнікамі міністэрства сацыяльнай абароны насельніцтва працягвае правядзенне «выязных прыёмных». Наступны адрас — Расоны.**

## ЛЮДСКІЯ КЛОПАТЫ, ЗДАРАЕЦЦА, НЕ КОЖНАГА ЧЫНОЎНІКА «ПРАБІВАЮЦЬ»...

А ПАКУЛЬ — крышачку пра наш слуцкі вопыт. У сэнсе: пра «выязную прыёмную», што была ўжо праведзена ў Слуцку. Мы некалькі разоў давалі справаздачы з той камандзіроўкі. Па ўсіх амаль што пытаннях гутарылі з кіраўнікамі слуцкай улады — і ў горадзе, і ў раёне. Многія клопаты тых людзей, якія звярнуліся да нас падчас правядзення «выязной прыёмнай», што называецца, прывезлі ў Мінск. І тут пачалася самая што ні ёсць траскатня, кажучы прасцей, пераліванне з пустога ў парожняе. Некаторыя пытанні (не хацелася б называць інстанцыі, аўтараў пустых, часам не па сутнасці, адказаў) аказаліся невырашальнымі. Якія гэта пытанні? Перш-наперш па значнасці і сур'ёзнасці трэба, відаць, звярнуць увагу на сітуацыю, што склалася ў жыхароў дамоў 1«а» і 1«б» па вуліцы Гагарына ў Слуцку. Мо ўсё ж такі Міністэрства абароны возьме на сябе клопат у вырашэнні гэтай праблемы? А сітуацыя наступная (цытуем па калектыўнаму лісту): «...па вуліцы Гагарына пражываем з 1984 года. Дамы былі пабудаваны ў 1980 годзе ракетнай воінскай часцю. На пачатку 90-х гадоў воінская часць была расфарміравана і выведзена за межы Рэспублікі Беларусь. З гэтага моманту нашы дамы нікому не належаць. Мы жывём без прапіскі, што стварае пэўныя цяжкасці. Без прапіскі нас не ставяць на чаргу для паляпшэння жыллёвых умоў, мы не можам атрымаць паліва для ацяплення кватэр па дзяржаўных цэнах, паколькі паліўныя кніжкі выдаюцца таксама пры наяўнасці прапіскі і тэхнічнага пашпарта. Узнікаюць цяжкасці і з працаўладкаваннем, пры зваротах у гаргаз, электрасеткі, бальніцу і г. д. Просім звярнуць увагу на тое, што адной сям'і прапіску дазволілі... Кватэрплату і за паслугі мы аплачваем двойчы: там, дзе прапісаны, і тут. Увесну 1996 года мы звярнуліся з просьбай аб прапісцы ў выканкам г. Слуцка. Станоўчага адказу не атрымалі. Пасля нашых наступных зваротаў была дасягнута вусная дамоўленасць паміж старшынёй выканкама і начальнікам КЭЧ аб тым, што КЭЧ падрыхтуе тэхнічныя пашпарты на нашы кватэры, а выканкам, у адпаведнасці з пастановай Саўміна № 110 за 1994 год, возьме іх на баланс. Тэхнічныя пашпарты на нашы кватэры падрыхтаваныя і знаходзяцца ў БТІ, а КЭЧ і выканкам так і не могуць вырашыць, хто з іх возьме нашы дамы на баланс. Адпаведна, 70 чалавек дагэтуль жывуць у падвешаным стане, без прапіскі...» Як кажуць, без каментарыяў. Спадзяванне тут, відавочна, адно — на Міністэрства абароны. На наша, беларускае. Апеляваць да саюзнага — позна. Хаця, канешне ж, памылка закладзена яшчэ тады, калі ў 1980-я гады дамы, пабудаваныя воінскай часцю, не былі перададзены на баланс КЭЧ. Ды сёння шукаць вінаватых позна.

«Доўгайграючым» аказаўся і клопат (у прынцыпе, у маштабах Случчыны і ўсёй краіны дробязны, а як для аднаго чалавека, то досыць важкі) Віктара Рыгоравіча Савановіча. Некалькі слоў пра гэтага чалавека. Пенсіянер. У калгасе «Ленінскі шлях» пачаў працаваць яшчэ 13-гадовым падлеткам. Пасля ўжо, займеўшы адукацыю, стаў аграномам. У 1969 годзе быў абраны старшынёй калгаса. Таго самага — «Ленінскі шлях». Відаць па дзяржаўных узнагародах (ордэны Працоўнага Чырвонага Сцяга, «Знак Пашаны», медалі), што працаваў добра. У 1976 годзе па стану здароўя перайшоў працаваць дзяржаўным інспектарам па закупках і якасці сельгаспрадуктаў па Слуцкаму раёну. А з 1985 года, пакуль не пайшоў на пенсію, — намеснік старшыні, прараб калгаса імя Куйбышава. Жыве ж на тэрыторыі калгаса «Ленінскі шлях», які мяжуе з калгасам імя Куйбышава. І клопат вось які... Яшчэ ў 1992 годзе на сходзе ўпаўнаважаных калгаса імя Куйбышава было прынята рашэнне павялічыць прысядзібны надзел да 1 гектара. З іх — 0,40 га на сядзібе і 0,60 га — у полі севазвароту. Калгас на 0,60 га правадзіў апрацоўку, уносіў угнаенні, ажыццяўляў уборку. За выкананыя работы калгас утрымліваў аплату ў пераразліку на збожжа. Валавы збор збожжа з гэтых участкаў улічваўся па сярэдняй ураджайнасці па калгасу. Розніца паміж валавым зборам і адлічэннямі за апрацоўку і г. д. выдавалася калгаснікам. У залежнасці ад года калгаснікі атрымлівалі ад 900 да 1200 кг збожжа. Да 1997 года ўсімі правамі і льготамі карыстаўся і Савановіч, як і ўсе пенсіянеры калгаса імя Куйбышава. У 1997 годзе калгаснікам выдалі па 1 тоне збожжа. Савановічу адмовілі. Не далі і саломы. Маўляў, жыве ён на тэрыторыі іншага калгаса. Але ж працаваў апошнія 9 гадоў у калгасе імя Куйбышава. Звярнуўся Савановіч да мясцовых уладаў. Абяцалі дапамагчы. Праўда, дзіўная атрымалася дапамога. Размова ішла пра адно, а адказ дадзены лічы што пра другое. Віктар Рыгоравіч цікавіўся, чаму яго пазбавілі льгот, якія маюць усе астатнія калгаснікі. А яму адмовілі... Цытуем ліст з упраўлення сельскай гаспадаркі і харчавання Слуцкага райвыканкама: «...Савановіч В. Р. пражывае на тэрыторыі калгаса «Ленінскі шлях» і карыстаецца ўчасткам 0,40 га, памер якога ўстаноўлены на сесіі сельскага Савета як для калгаснікаў, так і для жыхароў, якія пражываюць на тэрыторыі калгаса «Ленінскі шлях». Як пенсіянеру, Савановічу В. Р. прадастаўлена права выпісаць збожжа ў колькасці 150 кг коштам 3 тыс. рублёў за 1 кг у калгасе імя Куйбышава...» Пра тую ж, галоўную, ільготу, згодна з якой Савановіч бясплатна мог бы мець да 1 тоны збожжа, — маўчок. Як быццам і не пра гэта размова была. Логіка адсюль вынікае наступная: пакуль працуеш, то ты патрэбны гаспадарцы. Пайшоў на пенсію — лічы, ты ўжо лішні чалавек. Заслугі твае адразу забытыя.

Вось і мы ў некаторай разгубленасці, як дапамагчы Савановічу. Няўжо, каб вырашыць яго не такі ўжо сапраўды і вялікі клопат, трэба звяртацца як мінімум у Савет Міністраў?..

Да каго звяртацца далей у наступных выпадках так і засталося загадкай (прынамсі, для нас). Як быццам, усё тут залежыць толькі ад мясцовай улады. Але...

Валянціна Палазнік з вёскі Грэск (маці пяцярых дзяцей, сама інвалід II групы) прыйшла на «выязную прыёмную» з немудрагелістай, здавалася б, просьбай — дапамагчы адрамантаваць склеп. Лішніх грошай, зразумела, у жанчыны няма, у той час як звяртацца са сваёй бядой у самыя розныя інстанцыі яна вымушана ўжо чацвёрты год. Аднак, відаць, «блуканні па пакутах» працягнуцца і далей. Прынамсі, такую выснову можна зрабіць з атрыманага рэдакцыяй ліста са Слуцкага райвыканкама: «У заяўніцы ёсць магчымасць пабудаваць склеп уласнымі сіламі ў адным з аддзяленняў хлява, дзе захоўваюцца дровы і цвёрдае паліва». Не менш лаканічным быў адказ і пенсіянерцы Ніне Іванаўне Кірыльчык з той жа вёскі, якая прасіла выдзеліць ёй у карыстанне 90 сотак зямлі: «Згодна з рашэннем Грэскага сельсавета, вызначаны канкрэтны памер участка для вядзення асабістай гаспадаркі ў 0,5 га. З-за адсутнасці ў сельвыканкаме невыкарыстоўваемых зямель прадаставіць Н. І. Кірыльчык дадатковы ўчастак да 1,0 га не ўяўляецца магчымым». Кропка.

Аднак дзве сітуацыі, аб якіх давялося даведацца ў раёне, на наш погляд, усё ж заслугоўваюць асобнай гаворкі. Так, Анастасія Шыловіч з вёскі Лучнікі распавяла, што яшчэ ў 1990 годзе пры будаўніцтве двух дамоў калгас «Ленінскі шлях» выкарыстаў амаль палову яе сядзібы. Пры гэтым абяцанні прадаставіць гаспадыні новую кватэру так і засталіся не больш чым абяцаннямі. Між тым, як паведамілі нам у райвыканкаме, Анастасіі Шыловіч у свой час былі прапанаваны два варыянты ўпарадкавання пад'язных шляхоў да яе дома, аднак абодва гаспадыню не задаволілі. Словам, становішча склалася ці не тупіковае. Таму, відаць, адзінае, што можа ў такіх выпадках зрабіць рэдакцыя газеты, — гэта звярнуцца з просьбай разабрацца ва ўпраўленне будаўніцтва Мінскага аблвыканкама. Магчыма, нейкі кампраміс усё ж знойдзецца.

Другая сітуацыя ўвогуле падаецца дзіўнай. Сутнасць справы ў наступным. Тамара Асмалоўская атрымала пад забудову ўчастак у весцы Кляпчаны, але суседка з паралельнай вуліцы чамусьці пачала выкарыстоўваць гэты ўчастак ва ўласных мэтах. Безумоўна, хто тут мае рацыю, вызначыць, у рэшце рэшт, павінен суд. Суд, дарэчы, сапраўды адбыўся, і ў выніку яшчэ ў кастрычніку 1995 года стаў на бок Т. Асамалоўскай. Бяда, аднак, у тым, што ўжо больш як два з паловай гады судовае рашэнне... застаецца нявыкананым. Вядома, чакаць можна колькі заўгодна, колькі заўгодна можна зноў і зноў звяртацца ў суды і пракуратуры. Толькі вось ці дадуць гэтыя звароты калі-небудзь плён? Пытанне «павісае» ў паветры.

**Сяргей ГРЫБ.**
**Алесь КАРЛЮКЕВІЧ.**

***ПАДРАБЯЗНАСЦІ***

## САМАЛІКВІДАЦЫЯ

**Укладчыкі не ведалі, што на той момант, калі ў іх пад някепскія працэнты пазычалі грошы, агульны сход акцыянераў ужо прагаласаваў за спыненне дзейнасці банка**

**Персанал гродзенскага філіяла «Чысцінвестбанка» (дакладней таго, што засталося на «руінах» гэтай фінансавай установы) цяпер складаецца толькі з двух чалавек. Дырэктар ужо звольніўся, яго абавязкі па дагавору з ліквідацыйнай камісіяй (яна ў Мінску) выконвае Валянціна Жук. «Вы тут надоўга?» — цікаўлюся. — «Невядома, гэта залежыць ад таго, калі «падвядзе рысу» вышэйпамянёная камісія. Да фінішу, мяркуючы па ўсім, яшчэ далёка».**

А тым часам дзесяткі ўкладчыкаў гродзенскага філіяла (у асноўным гэта пенсіянеры) ужо больш за паўгода застаюцца ў падвешаным стане. Зразумела, што ў іх на душы. Вось вытрымкі з некаторых пісьмаў у абласное таварыства абароны спажыўцоў:

*— Гэтыя грошы — вынік усіх маіх даходаў за ўсё працоўнае жыццё.*

*— Вось ужо каторы месяц доўжыцца валакіта. Ніхто нічога дакладна не ведае і нічога канкрэтнага не абяцае.*

*— Цяпер са мной размаўляюць як з віноўнікам. Маўляў, вы самі вінаватыя, што прынеслі грошы ў наш банк, што гэта латарэя і скажыце дзякуй, што мы грошы ўвогуле вяртаем. Чакайце.*

Сітуацыя да болю тыповая: на прасторы былога СССР так здаралася неаднойчы. У дадзеным выпадку нейкія паралелі з сумна вядомым «МММ» праводзіць не варта, бо няма падстаў сцвярджаць, што нехта загадзя спланаваў падман кліентаў. Але не зусім сумленная, мякка кажучы, «гульня» відавочная. Мяркуйце самі. У канцы мая мінулага года жыхар горада над Нёманам Н. даведваецца, што мясцовы філіял «Чысцінвестбанка» прымае тэрміновыя ўклады пад 60 працэнтаў гадавых. Нічога дрэннага пра гэты банк чуваць не было, і, паколькі працэнты тут нават вышэй, чым у іншых банках, — чалавек вядома каму аддае перавагу. Чэрвень, ліпень усё нармальна: выплачваюць працэнты ранейшым кліентам, заключаюць дагаворы з новымі. Аднак неўзабаве ўсё рэзка мяняецца. Уклады ўжо не прымаюць, забраць абяцаныя працэнты, не гаворачы пра асноўныя сумы, нельга.

Якое ж бедства напаткала ўчора яшчэ надзейны, як здавалася ўкладчыкам, банк? Аказваецца, яго становішча стала не проста дрэнным, а вельмі дрэнным, можна сказаць, невыносным. Прычым, што прынцыпова для ўкладчыкаў, не раптам. Яшчэ ў канцы 1996 года на высокім узроўні абмяркоўвалася, як рэарганізаваць «Чысцінвестбанк», дапамагчы яму фінансава. Варыянты былі розныя, у прыватнасці, стварэнне на яго базе банка жыллёвага будаўніцтва, далучэнне да іншага банка. Аднак усе праекты так і засталіся на паперы. І 15 мая 1997 года акцыянеры «Чысцінвестбанка», прааналізаваўшы яго фінансавае становішча, палічылі, што лепшае з горшага — гэта самаліквідацыя. Адпаведную просьбу яны адрасавалі Нацыянальнаму банку. На гэты момант Н. яшчэ думаў, ці давяраць гродзенскаму філіялу «Чысцінвестбанка» свае грошы, а дагавор разам з яго будучым калегам па няшчасцю Г. заключыў значна пазней — 1 жніўня.

Заканамерна спытаць: навошта ж і пасля 15 мая банк зазываў да сябе нядрэннымі працэнтамі? На што разлічвалі? Наконт гэтага ўкладчыкам, дылетантам у фінансавых тонкасцях, прапануецца наступны «лікбез». З матэрыялаў судовай справы: «Банк — гэта фінансавая ўстанова, агент дзяржавы ў выкананні грашова-крэдытнай палітыкі, дзейнасць яго нельга проста спыніць. Так, банк працягваў і пасля 15 мая 1997 года прымаць уклады ад насельніцтва. 30 ліпеня паступіла пісьмо Нацбанка, дзе ён абавязваў банкі, у тым ліку і «Чысцінвестбанк», прыцягваць сродкі фізічных асоб, улічваючы важнасць адцягнення сродкаў насельніцтва з абарачэння і максімальнага прыцягнення іх для папаўнення крэдытных рэсурсаў з накіраваннем у эканоміку». Да таго ж «аналіз балансу пацвярджаў рэальную магчымасць выканання абавязацельстваў перад крэдыторамі». Але толькі праз чатыры месяцы Нацбанк зацвердзіў рашэнне агульнага сходу акцыянераў аб спыненні дзейнасці «Чысцінвестбанка», што прынесла апошняму вялікія фінансавыя страты.

Не зразумець гэтага ўкладчыкам. Яны задаюць другое, зусім ужо наіўнае пытанне агенту дзяржавы: «А чаму вы, перш чым узяць грошы, не праінфармавалі нас аб становішчы спраў у банку? Сказалі б усё як ёсць, а тады кожны чалавек няхай вырашае, ці варта рызыкаваць, гуляючы з вамі ў «латарэю».

Адказ ну проста вельмі нечаканы. Валянціне Жук, маўляў, і самой шкада гэтых пенсіянераў, аднак у філіяле не маглі хаця б папярэдзіць іх аб магчымых непрыемнасцях: «Усё казалі, што нас да кагосьці далучаць». Аб вышэйпамянёным рашэнні сходу акцыянераў у Гродне даведаліся значна пазней. Да 15 жніўня філіял працаваў як звычайна, браў ад усіх жадаючых дэпазітныя ўклады. Цяпер вось ужо столькі часу з імі расхлёбваюцца.

Па словах Валянціны Уладзіміраўны, ліквідацыйная камісія робіць усё, што ў яе сілах. «Выбівае» з даўжнікоў грошы, накіроўвае іх для разліку з укладчыкамі. Апошніх мноства, таму існуе чарга: хто раней звязаўся з банкам — у таго больш шанцаў хутчэй з ім развітацца. Але гэта няпроста. Атрыманне пэўнай сумы яшчэ не азначае, што ўвесь гэты фінансавы кашмар у мінулым. Справа ў тым, што каля 5 мая філіял вяртае толькі «голыя» ўклады. Здолеюць разабрацца з імі — тады, можа, дойдзе і да выплаты працэнтаў. А працэнтныя стаўкі, вядома, бываюць розныя, у тым ліку і мінімальныя.

Але на мінімум згодныя не ўсе. Абласное таварыства аховы спажыўцоў, сабраўшы заявы ад вялікай колькасці ўкладчыкаў, звярнулася ў ліквідацыйную камісію з прэтэнзіяй. Прапанавалася добраахвотна выплаціць людзям сумы ўкладаў з працэнтамі, няўстойку за кожны пратэрмінаваны дзень і матэрыяльную кампенсацыю за маральныя страты. Не выканалі — таварыства звяртаецца ў суд. Спачатку былі разгледжаны 23 іскавыя заявы, наступным разам — яшчэ 17. Адказчыкам з'яўляецца ліквідацыйная камісія банка, які, абвясціўшы аб спыненні сваёй дзейнасці, своечасова не выканаў дагаворных абавязацельстваў перад укладчыкамі. Вердыкт суда Ленінскага раёна г. Гродна для адказчыка проста ашаламляльны. Толькі па першай партыі іскаў, акрамя ўкладаў, працэнтаў, няўстойкі і кампенсацыі маральнай шкоды, трэба яшчэ выплаціць звыш мільярда рублёў штрафу. У такім разе, заяўляе ліквідацыйная камісія, усім астатнім людзям не хопіць грошай не толькі на працэнты, але і на асноўны доўг. А на падыходзе трэці судовы працэс, з яшчэ большай колькасцю падманутых укладчыкаў...

...Мае пытанні да Валянціны Жук перапыняе візіт чарговага пенсіянера. Ён збіраецца пісаць скаргу ў Адміністрацыю Прэзідэнта. А Валянціна Уладзіміраўна кажа, што яе падманулі некаторыя ўкладчыкі. Яны атрымалі грошы, запэўнівалі, што прэтэнзій не маюць. А затым, палічыўшы, што кампенсавана не ўсё, сталі дабівацца большага. Нічога дзіўнага: «гульню без правілаў» пачалі не ўкладчыкі. І тут ужо кожны ратуецца як можа.

**Барыс ПРАКОПЧЫК.**

## РЫХТУЕЦЦА ЗАКОНАПРАЕКТ АБ БЕЛАРУСКІМ ОМБУДСМЕНЕ

**Старшыня камісіі Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу па правах чалавека і нацыянальных адносінах Юрый Кулакоўскі паведаміў журналістам, што восенню гэтага года ў парламенце будзе разглядацца законапраект аб упаўнаважаным па правах чалавека (омбудсмене).**

Гэты праект быў ужо прыняты ў першым чытанні яшчэ Вярхоўным Саветам, аднак пасля рэферэндуму 1996 года неабходна было яго перапрацаваць. Камісія па правах чалавека працуе над ім ужо год, і цяпер ён разглядаецца ў зацікаўленых ведамствах, праходзіць экспертызу за мяжой, у міжнародных арганізацыях. Па словах Ю. Кулакоўскага, падрыхтоўку законапраекта аб упаўнаважаным па правах чалавека падтрымлівае і прэзідэнт краіны.

Істытут гэтага ўпаўнаважанага, або омбудсмена, існуе ў многіх краінах сталай дэмакратыі, развіваецца ён і ў дзяржавах былога СССР, у прыватнасці, упаўнаважаныя па правах чалавека дзейнічаюць у Малдове, ва Украіне, у Расіі, Азербайджане, Грузіі. У Польшчы гэты інстытут існуе з канца 80-х гадоў і зарэкамендаваў сябе даволі няблага. У прыватнасці, летась польскі омбудсмен Адам Зеліньскі і яго штат, які налічвае 190 чалавек, разгледзелі 47 тысяч заяў і скаргаў грамадзян на парушэнне іх правоў.

Беларускі омбудсмен, як прадугледжваецца ў рыхтуемым законапраекце, таксама як і яго калегі, будзе незалежным ад усіх галін улады і атрымае шырокія паўнамоцтвы, магчымасць запытаў і прамога доступу ва ўсе дзяржаўныя структуры, рашэнні яго нельга будзе абскарджваць. На думку Ю. Кулакоўскага, гэта з'яўляецца галоўнымі ўмовамі функцыянавання інстытута ўпаўнаважанага па правах чалавека. У тым, што працы ўпаўнаважанаму па правах чалавека будзе дастаткова, Ю. Кулакоўскі ўпэўнены, бо ніякая дзяржава не можа пахваліцца тым, што правы грамадзян у ёй не парушаюцца, у тым ліку і наша Беларусь.

— У нас ёсць парушэнні ў следчых ізалятарах, у судовай практыцы, адміністрацыйна-гаспадарчай дзейнасці, міжасобасных кантактах і г.д. Мы нічым не выдзяляемся на фоне іншых дзяржаў, — лічыць Ю. Кулакоўскі.

**Валер КАЛІНОЎСКІ.**

## БЕЛАРУСЬ ПРЭТЭНДУЕ НА ЧАСТКУ «НАЦЫСЦКАГА» ЗОЛАТА

**За пяць гадоў праз Беларускі рэспубліканскі фонд «Узаемаразуменне і прымірэнне» звыш 122 тысяч жыхароў Беларусі, былых вязняў фашысцкіх канцлагераў, атрымалі ад урада ФРГ грашовую кампенсацыю ў памеры 166 мільёнаў 492 тысяч 700 нямецкіх марак. Гэтыя лічбы прывёў старшыня праўлення фонду «Узаемаразуменне і прымірэнне» Валянцін Герасімаў.**

Паводле слоў Валянціна Герасімава, яшчэ каля 50 тысяч грамадзян рэспублікі могуць быць прызнаны ахвярамі фашызму і разлічваць на атрыманне часткі з тых 34 мільёнаў марак, якія ляжаць пакуль што на рахунках нямецкіх банкаў. Больш за 14 тысяч запытаў ужо адпраўлены ў Міжнародную службу вышуку. Сотням жыхароў аддаленых вёсак спецыялісты фонду дапамагаюць аднавіць дакументы.

Валянцін Герасімаў падзяліўся з журналістамі і такой інфармацыяй: швейцарскі фонд «Ахвяр халакоста» першай з краін СНД даверыў выплату кампенсацый ахвярам фашызму менавіта беларускаму фонду. Па 400 долараў атрымаюць вязні тых фашысцкіх канцлагераў і гета, якія трапляюць пад міжнародную класіфікацыю. Такіх у рэспубліцы 2200 чалавек. Кампенсацыю атрымаюць таксама 18 тысяч цыганоў і 400 яўрэяў, якія знаходзіліся ў час вайны на акупіраванай тэрыторыі.

Паводле слоў Валянціна Герасімава, швейцарскі бок гатоў быў таксама выплаціць кампенсацыю ўсім гомасексуалістам, якія падвергліся ганенню з боку фашыстаў, але такіх у Беларусі спецыялісты фонду не знайшлі.

Валянцін Герасімаў адзначыў, што фонд «Узаемаразуменне і прымірэнне» — удзельнік міжнароднай канферэнцыі па так званаму «нацысцкаму» золату, якая праходзіла ў снежні мінулага года ў Лондане. Беларусь прэтэндуе на частку сродкаў з таго золата, што было адабрана ў вязняў фашысцкіх канцлагераў і гета.

**Аксана АСПІШЧАВА,**
**БЕЛТА.**

**Спрадвечная мара сярэднестатыстычнага беларуса займець уласны аўтамабіль набыла рэальныя абрысы пасля таго, як знікла «жалезная заслона». Праз адчыненыя заходнія межы ў Беларусь разам з шэрагам іншых тавараў хлынулі і замежныя аўтамабілі. Пераважная большасць «іншамарак», вядома ж, не новых, прыцягвала і прыцягвае небагатых беларусаў сваімі даволі прымальнымі цэнамі і выдатнай, у параўнанні з расійскімі аўтамабілямі, якасцю. Аўтамабіль для сярэднестатыстычнага беларуса сапраўды пачаў ператварацца ў сродак перамяшчэння.**

# «АЎТАМАБІЛЬНАЯ ЛІХАМАНКА»



## Аўтамабіль зараз — не раскоша, і нават не сродак перамяшчэння, а добраахвотнае блуканне па пакутах

Аднак пасля заключэння мытнага саюза з Расіяй на шляху айчынных аўтааматараў з'явіліся істотныя мытныя перашкоды. Як вядома, быў час, калі мытная пошліна за ўвезены аўтамабіль у некалькі разоў перавышала кошт самой «іншамаркі». Пацярпелі ад такой мытнай палітыкі не толькі асобныя грамадзяне нашай краіны, але і дзяржаўная скарбонка, якая з-за рэзкага скарачэння колькасці жадаючых увозіць замежныя аўтамабілі недаатрымала сотні мільярдаў рублёў у выглядзе мытных пошлін. У рэшце рэшт, было знойдзена кампраміснае рашэнне. Пошліны на ўвозімыя ва ўласнае карыстанне «іншамаркі» былі зніжаны, і «аўтамабілізацыя» Беларусі зноў набрала імклівыя тэмпы.

Тым не менш, у навучаных горкім вопытам беларусаў засталося зерне недаверу да роднай дзяржавы, пасеянае няўдалай спробай павышэння мытных пошлін на аўтамабілі. Не дзіўна, што ўзнікшыя напрыканцы красавіка гэтага года чуткі аб чарговым павелічэнні мытных пошлін на «іншамаркі» выклікалі ў краіне сапраўдную «аўтамабільную ліхаманку», якая працягваецца і па сённяшні дзень. Ахвярай гэтай «ліхаманкі» месяц таму стаў і я. Аб чым, па-праўдзе кажучы, і не шкадую. Хоць і ачуняў ад гэтай «хваробы» толькі цяпер.

Але аб усім па парадку.

### Чуткі кіруюць аўтааматарамі

Рашэнне купіць аўтамабіль я прыняў нечакана нават для самога сябе. Амаль год адкладваў гэтую справу да лепшых часоў. Апошні раз ужо цвёрда вырашыў набыць аўтамабіль за мяжой падчас летняга адпачынку. Як раптам вясной папаўзлі чуткі аб магчымым павелічэнні мытных пошлін. Спробы высветліць, наколькі гэтыя чуткі адпавядаюць ці не адпавядаюць рэчаіснасці, толькі павялічылі мае падазрэнні аб намеры дзяржавы павысіць аўтамабільныя пошліны. Бо ніхто з кампетэнтных асоб не мог дакладна і, галоўнае, аргументавана абвергнуць гэтыя чуткі. Наадварот, як стала вядома, з 16 ліпеня ўводзіцца ў дзеянне новы Мытны кодэкс Беларусі, які цалкам уніфікаваны з расійскім. Таму зусім лагічным было маё меркаванне аб тым, што Беларусь павысіць аўтамабільныя пошліны да расійскага ўзроўню.

Між іншым, гэтае падазрэнне застаецца ў многіх жыхароў нашай краіны і зараз, таму і не спадае «аўтамабільная ліхаманка».

Словам, напярэдадні майскіх святаў я вырашыў неадкладна ехаць за аўтамабілем у Літву альбо Польшчу.

Пасля кансультацый са спецыялістамі ў сферы аўтабізнесу, я направіўся за аўтамабілем у Польшчу, у знакамітыя Агароднікі.

### За аўтамабілем са «следапытам»

Варта адзначыць, што ў Польшчы забаронены продаж аўтамабіляў, якія транзітам перамяшчаюцца з іншых краін. Да парушальнікаў прымяняюцца жорсткія штрафныя санкцыі. Але гандаль транзітнымі аўтамабілямі ў гэтай краіне ўсё роўна ідзе вельмі бойка. У прыватнасці, у тых жа Агародніках, што месцяцца на мяжы з Літвой, прадпрымальныя літоўцы наладзілі велізарны аўтакірмаш. Афіцыйна, праўда, гэтая тэрыторыя лічыцца аўтастаянкай для транзітных аўтамабіляў, якія літоўскія грамадзяне нібыта вязуць у сваю краіну. На самай справе літоўцы і не думаюць увозіць гэтыя аўтамабілі ў сваю краіну, паколькі за іх трэба плаціць мытныя пошліны. Зручней і выгадней іх рэалізаваць у Агародніках. Тым больш, што і для пакупнікоў такія аўтамабілі абыходзяцца прыкладна на 400 долараў танней, чым у той жа Літве. Гэтым і вабяць Агароднікі шматлікіх аўтааматараў не толькі з Беларусі, але і з іншых краін СНД. У прыватнасці, я пазнаёміўся там з жыхарамі Расіі, Казахстана і Кіргізіі, якія таксама набывалі аўтамабілі.

Дарэчы, найлепш ехаць у Агароднікі за аўтамабілем, маючы літоўскую візу. У такім разе, вяртаючыся дамоў праз тэрыторыю Літвы, не рызыкуеш трапіць у рукі польскай паліцыі, якая можа нават арыштаваць аўтамабіль. Потым вярнуць сваё «аўто» можна будзе толькі заплаціўшы велізарны штраф. Я аб гэтым добра ведаў, але часу на адкрыццё літоўскай візы не было і таму вырашыў рызыкнуць. А для таго, каб звесці рызыку да мінімуму, узяў з сабою вопытнага кіроўцу і праваднікa, які добра ведаў ўсе «падпольныя» дарогі, дзе фактычна няма рызыкі сутыкнуцца з паліцыяй. Тым больш, што знайсці такога «следапыта» нескладана. Амаль кожны прыватны гродзенскі таксіст максімум за 70—80 долараў з радасцю акажа вам такую паслугу.

Такім чынам, у суправаджэнні вопытнага праваднікa і бывалага аўтамабіліста я выехаў у Агароднікі. Паколькі з беларускага боку на той час асаблівых чэргаў не было, то прыкладна каля 18 гадзін вечара мы ўжо былі на месцы прызначэння.

### Агароднікі — аўтамабільны «агарод»

Шчыра прызнаюся, я быў літаральна ашаломлены ўбачанай колькасцю аўтамабіляў, якія былі выстаўлены на продаж у Агародніках. На пяці стаянках, ці, дакладней сказаць, проста агароджаных участках поля, размяшчалася каля тысячы аўтамабіляў самых розных заходніх вытворцаў. З расійскіх я налічыў толькі дзве «Лады», якія сіратліва сталі ў самым куце аўтастаянкі. Да іх, дарэчы, амаль ніхто і не падыходзіў. Ды і тыя нешматлікія пакупнікі, якія падыходзілі да расійскіх аўтамабіляў, цікавіліся імі, відаць, проста так. Набываць расійскую «Ладу», калі побач за такую ж, а то і ніжэйшую цану, стаялі больш прывабныя «опелі», «форды», «фальксвагены», «аудзі», «мазды» і «БМВ», вядома ж, ніхто не збіраўся.

Што датычыць «іншамарак», то, у залежнасці ад года выпуску, танней за астатнія мадэлі прадаваліся аўтамабілі «Опель» і «Форд». Дванаццацігадовы аўтамабіль гэтых марак можна было прыдбаць крыху больш чым за 1000 долараў.

Дарэчы, літоўскія гандляры амаль заўсёды завышаюць стартавую цану на 200—300 долараў. Таму не варта адразу ж здавацца, пачуўшы стартавую цану на ўпадабаны аўтамабіль. Амаль заўсёды ёсць магчымасць збіць яго кошт. Справа ў тым, што літоўцы плацяць за стаянку немалыя грошы і ім самім выгадна як мага хутчэй збыць тавар.

Праблукаўшы па кірмашы каля трох гадзін, я ў рэшце рэшт спыніў свой выбар на вішнёвай «БМВ-318». Традыцыйна завысіўшы цану на 300 долараў, літовец праз некалькі дзесяткаў хвілін гандлю заявіў, што аўтамабіль не яго, а ягонага сябра, і ён пойдзе патэлефануе, каб даведацца, ці згодзен сапраўдны гаспадар знізіць цану. Гэта таксама адзін з «прыёмаў» гандлю. Вядома ж, гандляр нікому не тэлефанаваў. Так пастаяў дзеля прыліку ля бліжэйшай дарожнай кавярні, а потым вярнуўся і згадзіўся прадаць аўтамабіль па зніжанай цане.

### Дакументам давярай, але правярай

Тут надыходзіць самы адказны момант. Неабходна праверыць аўтамабіль на якасць і на «чысціню». Інакш кажучы, трэба пераканацца, што набываемы аўтамабіль не сапсаваны, не мае схаваных дэфектаў, а таксама не ўкрадзены.

Праверыць тэхнічны стан аўтамабіля, безумоўна, можа толькі вопытны вадзіцель. Паколькі мой вадзіцельскі вопыт даволі сціплы, я даверыў гэтую працэдуру сваім спадарожнікам. Не варта асабліва прыслухоўвацца да прадаўца, які звычайна гаворыць, што аўтамашына была ў добрых руках і на ёй апошнія гады амаль не ездзілі. Трэба правераць працаздольнасць усіх асноўных вузлоў і дэталяў.

Тэст на якасць аўтамабіль вытрымаў. Потым неабходна праверыць сапраўднасць дакументаў, каб нумары ў «тэхпашпарце» супадалі з тымі, што пазначаны на рухавіку і кузаве.

Пасля ўсіх гэтых працэдур прама на стаянцы заключаецца здзелка, і вы — уладальнік аўтамабіля.

### Паспяшыш — у паліцыю трапіш

Але, атрымаўшы ключы ад цяпер ужо свайго аўтамабіля, не трэба спяшацца пакідаць стаянку і імчаць на ўсёй скорасці дамоў. Хоць такая спакуса ўзнікае. Вопытныя «аўтабізнесмены» параілі пачакаць гадзін да трох-чатырох ночы, калі амаль усе дзяжурныя паліцэйскія ўжо стомяцца і будуць мірна спаць у аўтамабілях.

Праз некалькі хвілін я пераканаўся ў мудрасці гэтай парады. Літаральна побач з намі праносіліся шчаслівыя ўладальнікі аўтамабіляў, якіх адразу ж за агароджай стаянкі сустракалі паліцэйскія машыны. Потым, ужо стоячы ў чарзе на польска-беларускай мяжы, даведаўся, што многім давялося плаціць велізарныя штрафы, у кагосьці аўтамабіль увогуле арыштавалі, а нехта адкупіўся 50 доларамі. Інакш кажучы, польскім паліцэйскім таксама нішто чалавечае не чужое. Мне ж, дзякуючы вопыту «праваднікa» і спрытнасці вадзіцеля, не прыйшлося спакушаць польскіх вартавых правапарадку. Да мяжы мы дабраліся хутка і без прыгод.

### Мой аўтамабіль з краю, нічога не знаю

Праўда, дасягнуўшы мяжы, яшчэ рана радавацца. Бываюць выпадкі, калі польская паліцыя праводзіць праверку дакументаў на самай мяжы, пад'язджаючы амаль да кожнага аўтамабіля, што стаіць у чарзе. І калі ва ўладальніка няма візы якой-небудзь з заходнееўрапейскіх краін, ёсць небяспека, што аўтамабіль можа быць арыштаваны, альбо вас проста аштрафуюць на месцы.

Для таго, каб не трапіць у гісторыю ўжо на мяжы, уладальнікі набытых у Польшчы аўтамабіляў стараюцца трымацца побач са сваім «аўто». А на пытанне паліцыі аб месцазнаходжанні ўладальніка неўразумела паціскаюць плячыма. Тым больш, што чарга рухаецца вельмі павольна і большую частку часу вадзіцелі і без таго праводзяць у прыдарожных кавярнях.

### Чарга — звышпрыбытковы бізнес

Як вядома, самы няўдзячны занятак — чакаць і даганяць. Стаяць у чарзе пад спякотным майскім сонцам не толькі сумна, але і пакутліва. Гэта выдатна разумеюць некаторыя прадпрымальныя палякі. Таму, напрыклад, на беларуска-польскай мяжы, ля Кузніцы ўздоўж чаргі раз-пораз праходзяць мясцовыя прайдзісветы і прапануюць правесці вас да самага польскага шлагбаума «ўсяго» за 100 долараў. Пасля амаль дваццацігадзіннага нерухомага чакання ў чарзе я ўжо быў гатовы скарыстацца паслугамі гэтых «дабрадзеяў», але раптам прапускны «механізм» на мяжы запрацаваў больш жвава, і да польскага шлагбаума я дабраўся бясплатна.

Аднак гэта яшчэ не азначала, што я хутка змагу трапіць дамоў. За польскім шлагбаумам стаяла яшчэ адна даволі доўгая чарга. Польскія памежнікі спасылаліся на тое, што беларуская мытня не паспявае афармляць транзітныя аўтамабілі, якіх назбіралася незлічоная колькасць. Праўда, калі мой вадзіцель прапанаваў 10 долараў, польскі памежнік абяцаў падумаць аб тым, чым ён можа дапамагчы. І дапамог. Хоць давялося яшчэ такім чынам «улагоджваць» яго беларускіх калег.

Якое ж было маё здзіўленне, калі на пункце мытнага афармлення «Брузгі» я ўбачыў ўсяго 3 аўтамабілі, а сонныя мытнікі лянівa сноўдалі туды-сюды.

Дарэчы, гэтую чаргу з трох аўтамабіляў давялося стаяць амаль гадзіну, бо, запоўніўшы неабходныя паперы, трэба яшчэ пабегаць за мытнікамі, каб яны зрабілі ласку і выканалі свае непасрэдныя абавязкі. Цяпер зразумела, чаму на мяжы такія велізарныя чэргі. Калі б беларуская мытня працавала зладжана і хутка, такіх чэргаў, я ўпэўнены, проста не было б. На маю думку, на беларускай мытні варта было б увесці пасаду менеджэра, які б заняўся арганізацыяй працы гэтай установы на пунктах пропуску. Але замест таго, каб удасканаліць працу на пунктах пропуску, кіраўніцтва мытні ў стылі савецкіх часоў шукае апраўдальных прычын: маўляў, узнік аўтамабільны ажыятаж. Ды вы, шаноўныя дзяржаўныя асобы, павінны радавацца гэтаму, а не наракаць. Гэта ж велізарнейшыя сумы грошай у бюджэт дзяржавы. Навучыцеся ж, у рэшце рэшт, браць гэтыя грошы прыгожа, а не прымушайце людзей пакутаваць.

Зрэшты, магчыма, наяўнасць вялікіх чэргаў камусьці ў Беларусі вельмі выгадная. Чаго варты мытнік, які проста дакладна і хутка выконвае свае абавязкі і на мяжы няма чэргаў? А калі за гэтым мытнікам кіламетровыя чэргі, яму ж кожны з гэтай чаргі гатовы ў ногі пакланіцца, толькі б хутчэй перасячы запаветную мяжу і дабрацца дамоў.

### На мяжы дрэнна, але і дома не лепш

Праўда, дома «аўтамабільныя» пакуты таксама адразу не скончыліся. Тут таксама чэргі. У прыватнасці, у пункце мытнага афармлення аўтамабіляў, што размяшчаецца на тэрыторыі Ждановіцкага рынку, мне давялося прастаяць у чэргах каля 12 гадзін. Напачатку стаіш у чарзе, каб здаць неабходныя паперы, потым — каб іх атрымаць. Затым яшчэ некалькі разоў стаіш у чарзе, каб аплаціць паслугі і розныя зборы. Тут таксама ніхто і не думаў паклапаціцца пра людзей. Напрыклад, я не разумею, чаму пры мытным афармленні я павінен стаяць па некалькі гадзін у чарзе ў мясцовае аддзяленне «Пріорбанка», каб аддаць дзяржаве свае кроўныя грошы ды яшчэ і банку заплаціць за паслугі? Няўжо нельга вырашыць гэтую праблему? Прынамсі, калі той жа «Пріорбанк» не можа добра арганізаваць абслугоўванне, то чаму б мытні не знайсці іншы банк? Мяркую, што сярод банкаў знайшлося б нямала жадаючых больш якасна аказваць такія паслугі.

Не лепшым чынам працуюць і дзяржаўныя ўстановы. Тая ж мытня магла б больш аператыўна афармляць дакументы і не прымушаць людзей пакутаваць у чэргах.

Дарэчы, як гэта ні смешна, але я заплаціў у бюджэт дзяржавы за шматгадзінныя пакуты ў чэргах больш за 25 мільёнаў рублёў. Мяркую, што нават калі адкінуць убок той факт, што я яшчэ і падаткаплацельшчык, і грамадзянін гэтай дзяржавы, я маю права патрабаваць ад дзяржаўных органаў і ўстаноў чалавечых адносінаў.

Вядома, наіўна было чакаць, што ў мяне альбо ў іншых такіх жа аўтамабілістаў хаця б папросяць прабачэння за шматгадзінныя пакуты ў чэргах.

Але хочацца верыць, што адпаведныя дзяржаўныя ўстановы калі-небудзь павернуцца тварам да праблем людзей, якія набываюць аўтамабілі за мяжой.

**Мікола МАСТОЎСКІ.**

***P.S. Магчыма, у многіх аўтааматараў, якія прачытаюць гэтую публікацыю, адразу адпадзе ахвота ехаць за мяжу па аўтамабілі. Устрымаюся ад якіх-небудзь парад. Скажу толькі, што ўсе перажытыя непрыемнасці адразу ж забываюцца, калі сядзеш за руль свайго аўтамабіля.***

**КРЫМІНАЛ**

# ПАГУЛЯЛІ

У адну з начэй у кватэры непаўналетняга жыхара Мінска Руслана Мяліка гаспадар разам з сябрамі Генадзем Мысліўцом і Аляксандрам Гарашэнем пілі гарэлку. Усе трое былі практычна аднагодкі. Аб'ядноўвала іх таксама і тое, што праграму сярэдняй агульнаадукацыйнай школы яны не адолелі, а працаваць з мэтай папаўнення сямейнага бюджэту татаў і мам яны не жадалі. Генадзь Мыслівец да гэтага часу меў практычныя пазнанні пра быт і норавы выхаваўча-працоўнай калоніі для непаўналетніх, дзе правёў паўтара года за ўчыненае злоснае хуліганства. Такая ж перспектыва, толькі на больш працяглы тэрмін, маячыла перад Русланам Мялікам, які прыцягваўся да крымінальнай адказнасці за ўчынены крадзеж у асабліва буйных памерах і злоснае хуліганства. У той час ён знаходзіўся пад падпіскай аб нявыездзе.

У галаву, адурманеную алкаголем, прыйшла думка схавацца ад следства і суда, а прасцей кажучы, уцячы з Мінска і затаіцца ў вёсцы Вулька Целяханская, што ў Івацэвіцкім раёне. Хтосьці прапанаваў завалодаць якой-небудзь чужой аўтамашынай. План усім спадабаўся. Тут жа ў кватэры размеркавалі ролі, хто і што будзе рабіць. Мялік узяў ланцуг, а Мыслівец і Гарашэня — кухонныя сякеры і нож.

Раніцай на тралейбусе трыо даехала да велазавода.

— Слухай, мужык, — звярнуўся Гарашэня да прыватнага таксіста, — падкінь нас на «Паўднёвы Захад».

Пачуўшы прапанаваную суму, вадзіцель чырвоных «ВАЗ-21013» Аляксандр Лукомскі згадзіўся. На вуліцы Голубева, калі машына заехала ў двары і спынілася, Мялік накінуў вадзіцелю на шыю ланцуг і пачаў яго душыць, астатнія двое замахнуліся на Лукомскага сякерай і нажом.

Перахапіўшы падбародкам і рукой накінуты на горла ланцуг, Лукомскі ў думках развітаўся з жыццём. Але ў планы малалетніх разбойнікаў забойства вадзіцеля не ўваходзіла. Перасадзіўшы гаспадара машыны на пярэдняе сядзенне, Мялік сам сеў за руль і загадаў Лукомскаму сядзець побач з ім ціха, бо ў адваротным выпадку яму будзе канец.

Машына выехала на Брэсцкую шашу і накіравалася ў бок Дзяржынска. Аднак Мялік, які да таго ж быў п'яны, вадзіцелем аказаўся ніякім. Аўтамашына прыцягнула ўвагу работнікаў ДАІ, і тыя далі знак вадзіцелю спыніцца. У адказ Мялік павялічыў скорасць і паспрабаваў уцячы. Гаспадар машыны, які сядзеў побач і прадухіляў дарожна-транспартныя здарэнні, некалькі разоў перахопліваў руль і выраўноўваў машыну, выратоўваючы тым самым жыццё сабе і «пасажырам».

Уцячы не ўдалося. Каля Дзяржынска на руках угоншчыкаў зашчоўкнуліся наручнікі.

Суд Маскоўскага раёна Мінска прыгаварыў Руслана Мяліка да 6 гадоў пазбаўлення волі ў папраўча-працоўнай калоніі ўзмоцненага рэжыму, Генадзя Мысліўца — да 6 гадоў пазбаўлення волі ў калоніі строгага рэжыму, Аляксандра Гарашэню — да 6 гадоў папраўча-працоўнай калоніі.

**Мікалай КРАСНЕЎСКІ,**
**грамадскі карэспандэнт аддзела права і маралі.**

НІЛ ГІЛЕВІЧ

# НОВЫЯ ВЕРШЫ

### *Дзякуй, маэстра*

Міхасю КАЗІНЦУ

Дзякуй, маэстра,
Што воляй прызвання свайго,
За далячынню адольваючы далячынь,
Вечную, горнюю музыку свету ўсяго
Змог ты да музыкі роднай зямлі
Далучыць.

Дзякуй, маэстра!

Дзякуй, маэстра,
Што сілай сыноўскай любві,
Не дазваляючы сэрцу ні дня адпачыць,
Вечную, горнюю музыку роднай зямлі
Змог ты да музыкі свету ўсяго
Далучыць.

Дзякуй, маэстра!
*1998, травень*

### *У зоне*

Бязлюдная вёска. Бязлюдныя хаты.
Нібы ў сорак трэцім... Аднак жа тады
Жыла ў нас надзея: праз мукі і страты —
Хто выжыве — вернецца,
прыйдзе сюды,
Запаліць у печы малінавым ранкам,
І ў хаце знаёма запахне сняданкам,
І самаю вернай прыкметай жыцця —
Заплача ў калысцы малое дзіця.

А гэта — штосьці іншае, з іншае даты.
Бязлюдная вёска. Бязлюдныя хаты.
Магільная ціша. Нідзе анікога.
Ніякай надзеі для сэрца людскога!
Падворкі жахаюць счарнелым
бадыллем.
І ўсё патыхае фатальным бяссіллем
Зямлі і народа, што, нібы дзіця,
Няўцямна прымае абвалы жыцця.
*1998, травень*

### З КНІГІ «СЯМІРАДКОЎІ»

xxx

Ты адыходзіш, мой дваццаты век.
Хоць ты і мой — ты не багаславёны,
Бо ўсе высокія твае імёны —
Век Космасу, Камп'ютэраў, Ракет —
Чарнобыль перакрэсліў як рукой,
І для мяне ты Век Бяды — такой,
Якой не знаў ад сатварэння свет.

xxx

Старэнькі настаўнік, што ў школцы
вясковай
Вучыў малалетак іх роднаю мовай,
Склаў рукі на сэрцы гаротна, набожна
І мовіў: «Ну пэўна ж, ну ясна: навошта
Нам родная мова ў няшчаснай
старонцы?
Бязмоўных, як дрэвы ці рыбы, хутчэй
Даесць нас бязлітасны стронцый».

xxx

Ізноў стаю над попелам Хатыні.
Ізноў ад жаху кроў у жылах стыне.
Стрывай! Стрымайся і не звар'яцей —
Ад роспачы, ад непасільных дум:
«Але за што дзяцей? За што дзяцей??
За што дзяцей???..» Як у нямой
пустыні —
Пытаць дарма: адказу не знайду.

xxx

О мой любы брат Міхась Зарэцкі,
Найадданы Крывіі крывіч,
Расстраляны за свой талент рэдкі —
За любоў крывіцкую ў крыві!
Аб адным, мой брат, прашу цябе я:
Покуль свеціць мне ў душу надзея —
Імем Крывіі багаславі!

xxx

Пабіты ржой, сук быў адпілаваны
Ад яблыні старой, быў ацярэблены
І кінуты на дол як непатрэбны.
А ён, вясновым сокам набрынялы,
І на зямлі пусціў ружовы квет!..
Так безнадзейна, што ажно заплакаў,
Пазнаўшы ў ім сябе, стары паэт.

xxx

Унук укалоў аб калючку
шыпшынніку палец,
Чырвоную капельку з ранкі
адважна злізаў,
Пачуўся героем — і гучную оду
скілзаў.
А дзед-інвалід, без нагі,
на драўляным пратэзе,
Траву для кароўкі збівае касою
на ўзмежку,
Сустрэчы са смерцю на фронце
ён помніць, канешна,
А вось жа — ніякіх амбіцый,
ніякіх прэтэнзій!
*1998, травень.*

***Уладзімір Васько найперш прыцягнуў увагу сваім невялікім, але арыгінальным лістом: «Добры дзень, спадарыня «Звязда»! Я зноў намазюкаў адно апавяданне. І верш на такую ж тэму... Яшчэ мяркую выслаць Вам апавяданне «Нара» — пра жанчыну, якая жыве ў саломе. Усё, вядома ж, пастаўлена на мастацкую аснову.***

***Мне здаецца, Вам не пашкодзіла б бавіць чытача і мастацкімі «выбрыкамі». Вашая газета і так мне падабаецца больш за ўсё».***

***Вось якое сімпатычнае і сціплае прызнанне. Сціплае — бо слова «намазюкаў» аніяк не стасуецца з прапанаванай на гэты раз чытачам «Звязды» навелаю. Яна напісана вельмі прыстойна і, дарэчы, без мастацкіх «выбрыкаў», якія часам больш шкодзяць твору, чым прыносяць карысці. Нягледзячы на пэўную другаснасць сюжэту («Фараон і Харал» О'Генры), «Адрынутыя» — адзін з нямногіх на конкурсе твор, які пабудаваны па канонах класічнай навелы: завязка — кульмінацыя — нечаканая канцоўка.***

**Андрэй ФЕДАРЭНКА.**

***Конкурс «Звязды» і Саюза пісьменнікаў Беларусі***

Уладзімір ВАСЬКО

# АДРЫНУТЫЯ

НАВЕЛА

Якое на самай справе было прозвішча ў Ракфелера, Зоська не ведала, бо ні разу па-добраму з ім не пагаварыла. Але яна лічыла яго намнога багацейшым за сябе і за іншых бамжоў, таму і ахрысціла імем амерыканскага мільянера.

Ракфелер і праўда па пажытку куды як пераўзыходзіў іх усіх. У яго нават мелася сякая-такая «механізацыя»: самаробная каляска на шырокіх гумавых колах, з якой ён цягаўся па ўсім горадзе, і нейкая крывая качарга — ёю лягчэй было даставаць са скрыняў прадуктовыя адходы. У адзіным у горадзе мікрараёне Ракфелер нават утрымліваў наёмнага рабочага, плацячы яму па дзве бутэлькі віна ў месяц за тое, што да яго, Ракфелерава, прыезду ён падрыхтоўваў для пагрузкі ў каляску розныя адкіды.

Ракфелер насіў юхтовыя боты, зашмальцаваныя вайсковыя порткі з чырвонымі акантоўкамі і выцвілую да белаты ватоўку, падперазаную нейкім путам. На галаве яго па вушы была нацягнута «ў ёлачку», якую ён сам уцяпліў ватай, напхаўшы яе пад падшыўку. У гэтым убранні ён хадзіў зімою і летам.

Жыў Ракфелер недзе на вуліцы Калініна, у нізкім драўляным доміку. У яго было шасцёра дзяцей, і толькі адзін, сярэдні сын, быў падобны на бацьку кропелька ў кропельку: такі ж шырокі, булдакаваты нос, пляскатыя вусны і ўсмешка ад вуха да вуха. Старэйшы ж быў выліты тувінец, малодшы — натуральны калмык. Тры дзяўчынкі, мяркуючы па іх тварах, таксама наўрад ці былі ракфелераўскімі дочкамі.

Яго жонка ўвесь, так бы мовіць, працоўны век мыла посуд у сталоўцы вайсковай часці, і Ракфелер быў ёй больш патрэбен як прыкрыццё яе інтымных прыгод, для запісу ў пашпарце, чым для ролі сапраўды мужа. З прыходам у дом зяцця яна ўвогуле выгнала Ракфелера жыць у летнюю кухню — маўляў, ад яго патыхае «псінаю», а зяцю гэта можа не спадабацца. Там Ракфелер гатаваў ежу для сваіх свіней з прывезеных з горада аб'едкаў, там ён і спаў на скрыпучым, заквэцаным у свінячае цеста тапчане, напалову з'едзеным шашалем. Што смачнейшае са свінога рацыёну, накшталт непарэпанай варанай бульбы ці цвярдзейшага кавалка хлеба, перападала і яму.

Памалу Ракфелер нават палюбіў гэты занятак — збіраць аб'едкі. З дня ў дзень ён цягнуў сваю лямку не тое што абыякава, а з пэўным імпэтам, натхнёна. За дзень ён «рэвізаваў» нямала скрыняў са смеццем, але найбольшую пожыву меў акурат тут, дзе круцілася і Зоська: у суседніх дамах, мабыць, жыло нямала банкаўскіх работнікаў ці камерсантаў, і яны часта выкідвалі ў смецце зусім добрыя прадукты. Каб не Зоська, дык Ракфелеру і ўвогуле была б тут раскоша. Але на яго шляху заўсёды паўставала яна, Зоська, дзябёлая, неахайная, вечна чымсьці незадаволеная.

Аднойчы, не знайшоўшы нічога больш-менш людскага ў сваёй скрыні, Ракфелер палез у суседнюю, Зосьчыну. Аж акурат нарвалася «гаспадыня». Яна пачала бэсціць яго на чым свет стаіць, абкладаць мацюкамі, а ён сабе спакойна корпаўся качаргою ў яе скрыні. Цярпенне ў Зоські лопнула, яна з разбегу аберуч штурханула Ракфелера ў грудзі, і ён, зачапіўшыся нагамі за каляску, грымнуўся вобземлю. Лёгкая перамога акрыліла Зоську, яна ўвайшла ў азарт, асядлала Ракфелера і пачала малаціць яго кулакамі па твары. Ад нечаканасці і ад перапуду Ракфелер нават не супраціўляўся. Напэўна, Зоська дабіла б няшчаснага дарэшты, каб не два міліцыянеры, якія раптам вынырнулі з вішняку каля помпавай станцыі і ўтаймавалі жанчыну. І Ракфелера, і Зоську павялі ў аддзяленне.

На допыце Зоська расказала пра ўсё: і пра канфлікты каля скрыняў са смеццем, і пра тое, што сын з нявесткаю выгналі яе з дому з-за таго, што яна нібыта па начах моцна храпе, «выводзіць носам цэлыя сімфоніі», і вось ужо мо з год яна жыве ў падвале. Ноччу спіць на сянніку, паслаўшы яго на кучу бульбы, адзетая і абутая, скурчыўшыся ў тры пагібелі, а ўдзень бадзяецца па горадзе, па базары, туляецца ля скрыняў са смеццем, шукаючы спажывы.

У міліцыі паспачувалі ёй, але справу закрыць не асмеліліся і адправілі ў суд. Усе гэтыя дні Зоська жыла ў трывозе, не спала і вельмі баялася, каб яе не пасадзілі ў турму. Ёй здавалася, што такой ганьбы яна ніколі не перажыве.

Але павестка ў суд усё ж прыйшла. Сын прынёс гэтую жоўтую паперчыну ў падвал і сунуў маці ў руку са словамі:

— Дакруцілася! Па судах ужо цягаюць!

На Зоську раптам напаў неверагодны страх. Няўжо сапраўды турма?! Ліхаманкава яна пачала абдумваць прычыны, каб апраўдацца, але вось так, адразу, нічога не йшло ў галаву. Прыкінуцца, што хворая — урачы не пацвердзяць; ненармальная? — на такое яна сама не пойдзе... Раптам ёй падалося, што знайшла выйсце: яна залупіла спадніцу і пачала пазногцямі да крыві абдзіраць сабе ногі вышэй каленяў. Боль быў невыносны, але Зоська цярпела. Гэта быў яе адзіны шанц уратавацца ад турмы.

З тым і пайшла ў суд.

— За што вы пабілі Пясецкага? — строга спытаў суддзя.

— Як за што? Ён да мяне чапіўся, — заявіла Зоська. — Хацеў згвалтаваць.

— Проста там, каля сметніка, і хацеў згвалтаваць?

— Так, грамадзянін суддзя! Хочаце, во і цяпер пакажу, як паабдзіраў мне ногі вышэй каленяў.

— Нашто нам вашыя ногі? — адказаў суддзя. — Іх ніхто не бачыць. Вы лепш паглядзіце на твар Пясецкага, як вы яго скалечылі. Нават некалькі швоў давялося накласці!

Зоська паглядзела на Ракфелера. І сапраўды, яго немагчыма было пазнаць, твар счарнелы, галава перабінтаваная. Як Зоська далей ні прасілася, апраўдацца не змагла. За «нанясенне пабояў на твары як найбольш адкрытай частцы цела» яе ўпяклі ў турму аж на чатыры гады.

...Праседзела Зоська толькі два і трапіла пад амністыю. Вярнулася з турмы пахарашэлая, агладжаная, але ўжо з першых дзён жыцця на волі зразумела, што зноў трапіла ў ранейшы, горшы свет. Спаць прыйшлося на тым жа брудным сянніку, на смярдзючай бульбе, харчавацца аб'едкамі, адчуваць, што нікому ты не патрэбна... І яна цвёрда вырашыла ўтварыць яшчэ што-небудзь такое, каб зноў яе адправілі туды, адкуль вярнулася.

Зоська ўпотай пачала назіраць за скрынямі для смецця, ці не з'явіцца тут яшчэ які-небудзь «суб'ект» кшталту Ракфелера, які быў бы ёй па сілах. Але бамжы ў горадзе як перавяліся. Праўда, неяк да скрыняў падыходзіла кульгавая бабулька, палахліва азіраючыся, — ды на яе ў Зоські не паднялася рука.

Дні праз два, у абед, выглядаючы з вішняку, Зоська прыкмеціла, як хтосьці з каляскай шыбуе проста сюды, да яе скрыняў. Яна прыгледзелася: гэта быў у падперазанай путам ватоўцы, у кепцы, нацягнутай на вушы, у юхтовых ботах усё той жа Ракфелер. У яе засвярбелі рукі. Такога моманту яна не ўпусціць. Зоська нагнулася і пачала шукаць пад нагамі штонебудзь цвёрдае — жалязяку ці камень. Знайшла кавалак арматуры.

Ракфелер, нахіліўшыся, корпаўся ў яе скрыні. Зоська падцікалася ззаду і з усяе сілы перацягнула яму арматурынай па спіне, затым яшчэ раз, і яшчэ...

Далі Зосьцы за паўторнае збіццё аднаго і таго ж чалавека пяць гадоў. Выслухаўшы прыгавор, яна падняла вочы на суддзю і ледзь не сказала: «Дзякую», але спахапілася — не трэба, бо яшчэ апраўдае, чаго добрага. Выйшла з суда ў суправаджэнні двух канваіраў і сама сабе радасна ўсміхнулася. А быў якраз май, уздоўж тратуараў цвілі акацыі, каштаны, спраўлялі вяселлі вераб'і і шпакі. Зоська, нікога не саромеючыся і не баючыся, тройчы перахрысцілася і прашаптала: «Усё добра, дзякаваць Богу!..»

***У вянок паэтычнай славы***

# БАЙРАН. МІЦКЕВІЧ. ПУШКІН

...За акном Інстытута рускай літаратуры, знакамітага Пушкінскага дома -- Нява. За акном -- незвычайна сонечны для Пецярбурга дзень. Промні сонца прабіваюцца праз старыя падвойныя рамы акна і, мінаючы шторы, спрабуюць дацягнуцца да стала, пакрытага зялёным сукном, да вялікай кніжнай шафы. І ў шафе і на стале -- старыя тамы кніг на розных мовах. Старыя для нашага сучасніка. Калі іх чытаў гаспадар, многія толькі выйшлі з друкарні. Але слова «гаспадар», здаецца, не зусім адпавядае яго адносінам да кніг сваёй бібліятэкі. Ён называў іх сябрамі...

Святая святых Інстытута рускай літаратуры -- бібліятэка Пушкіна. Кнігі, што былі побач з ім у яго кароткім жыцці, кнігі, якія бачылі апошнія яго імгненні... На іх спыніўся яго згасаючы позірк, ім ён прашаптаў развітальныя словы «Бывайце, сябры».

Але мой позірк моцны нябачны магніт трымае на кніжцы, што асобна ляжыць на стале і здаецца невялікай побач з манументальнымі тамамі слоўнікаў.

Я гляджу на кніжку, але не адразу рашаюся ўзяць яе ў рукі. Мне здаецца гэта святатацтвам. І ўсё ж спакуса перамагае... Кніга, што ляжыць на стале, -- том паэзіі англійскага лорда і вялікага паэта Джорджа Гордана Байрана.

Я дакладна ведаю: 170 гадоў таму яе трымалі ў руках Аляксандр Пушкін і Адам Міцкевіч. Можа нават перагортвалі разам старонкі. І зараз я амаль фізічна адчуваю магічную цеплыню іх рук.

...Пасля вяртання з Міхайлаўскай ссылкі і некалькіх месяцаў жыцця ў Маскве Пушкін у маі 1827 года прыехаў у Пецярбург. А ў канцы снежня таго ж года прыехаў з Масквы і Адам Міцкевіч. Яны пазнаёміліся яшчэ ў Маскве і, прыехаўшы ў Пецярбург, сустракаліся даволі часта.

Аднойчы Міцкевіч прыйшоў да Пушкіна і, хітравата ўсміхаючыся, палажыў на стол кніжку: «Спадзяюся, яснавяльможны пан Аляксандр будзе рады лорду». Пушкін адкрыў вокладку. Джордж Байран. 1826 год выдання. І роўным почыркам лаканічны надпіс: «Байрана Пушкіну прысвячае паклоннік абодвух Міцкевіч». «Сапраўды, парадаваў, душа мая», -- ён усхвалявана абняў Міцкевіча.

Прысвячальным надпісам Міцкевіча многае было сказана. Байран быў для іх абодвух боствам. Зрэшты, не толькі для іх. У 10--20-я гады XIX ст. ён уладарыў настроямі моладзі ва ўсёй Еўропе. Першыя часткі паэмы «Паломніцтва Чайльд Гарольда» з'явіліся ў 1812 годзе, і з таго часу вобраз яе рамантычнага героя, які шукае Справядлівасць і Свабоду, стаў ідэалам не аднаго пакалення. Тагачасная Еўропа, многія народы якой змагаліся супраць уласных і іншаземных тыранаў, чакала такога літаратурнага героя.

Байран. Міцкевіч. Пушкін. Іх лёсы ў многім падобныя. Байран вымушаны быў пакінуць радзіму і закончыў жыццё ў красавіку 1824 года ў Грэцыі, дзе ўдзельнічаў у вызваленчай барацьбе грэкаў супраць турэцкага іга. Яму было 36 гадоў. Пушкіна не стала ў 38 гадоў. Ён ніколі не быў свабодным на радзіме. Жыццё Міцкевіча прайшло ў выгнанні і закончылася далёка ад радзімы, у Канстанцінопалі.

Калі памёр Байран, Пушкін быў у Міхайлаўскай ссылцы. У мясцовай царкве ён заказаў паніхіду па англійскаму паэту. А ўся адукаваная Расія ведала пушкінскую оду «Вольнасць», напісаную яшчэ ў канцы 1817 года. Оду, за якую ён і быў сасланы:

***Тираны мира! трепещите!***
***А вы, мужайтесь и внемлите,***
***Восстаньте, падшие рабы!***

У пушкінскіх радках тое, пра што марыў Байран, -- «узлёт Свабоды».

Адам Міцкевіч у красавіку 1824 года знаходзіўся пад следствам па справе віленскіх арганізацый філаматаў і філарэтаў і толькі што быў выпушчаны з турмы на парукі прафесара Лялевеля.

Сярод удзельнікаў студэнцкіх арганізацый не было нікога, хто б не ведаў дзве яго оды -- «Да маладосці» і «Рамантычнасць». Радкі з «Маладосці» -- «Разам сябры маладыя! У шчасці для ўсіх нашы мэты святыя» сталі эпіграфам да жыцця і самога Міцкевіча, і многіх яго сяброў.

«Байрана Пушкіну прысвячае паклоннік абодвух». Перад вачамі -- роўны почырк Міцкевіча. Я думаю, які цяжкі, цяжкі і шчаслівы, лёс у прарокаў. Цяжкі -- таму што ім не заўсёды вераць людзі. Шчаслівы -- таму што іх паэзія будзе існаваць вечна. Як існуе сонца, як існуе стыхія мора, якое ўсе трое любілі. Як існуюць хвалі Свіцязі і хвалі Нявы.

**Людміла ТРЭПЕТ.**

***Лясы-балясы***

## ЦЯЖКІ «ВІЦЯЗЬ» ДЛЯ СЛАБАЙ ЖАНЧЫНЫ

Што можа прымусіць беларускую жанчыну надзець шыкоўную вечаровую сукенку? Канешне, патрэбны фестываль. Яшчэ лепш, калі гэта будзе кінафестываль. Важнасць «Анімаёўкі-98», якая адбылася ў кінатэатры «Кастрычнік», падкрэслілі беларускія жанчыны-мультыплікатаркі. Асабліва ўразіў усіх шыкоўны выгляд Марыны Карпавай, вучаніцы Ігара Воўчака. Чорная адкрытая сукенка ўдала спалучалася з вялікай татуіроўкай на руцэ у аўтаркі анімацыйнага фільма «Белы клык». Шарму і экстравагантнасці было столькі — хоць прама зараз жа ў Канны адпраўляй.

А калі сур'ёзна, то праца беларускіх аніматараў, сапраўды вартая ўвагі прэстыжных фестываляў. Таму «Анімаёўку-98» без перабольшання можна назваць «дэманстрацыяй дасягненняў беларускай мультыплікацыі», у гэтым жанры нашы майстры працуюць паспяхова. Самы ганаровы анімацыйны фільм прадставіў старшыня Беларускага саюза кінематаграфістаў Ігар Воўчак. Яго «Капрычыо» атрымала ажно 9 узнагарод на розных міжнародных фестывалях. Цудоўна ўспрымаліся фільмы маладых аніматараў, якім уласціва дзіўная вобразнасць (напрыклад стужка В.Пяткевіч «Жыло-было дрэва»). А самы апошні прыз беларускіх аніматараў — вялікую і цяжкую статуэтку «Залатога Віцязя» прывезла Алена Турава. «Бронзу» на гэтым фестывалі атрымала яе стужка «Сіняя світка».

## ТАКІ НЯЛЁГКІ ХЛЕБ АРТЫСТА

Аднойчы пасля аднаго з выступленняў у Доме літаратара барду Алесю Камоцкаму дадому патэлефанаваў незнаёмец, сказаў, што трэба сустрэцца. Вядомы выканаўца задумаўся, ці мала хто з якімі мэтамі і якімі сродкамі ў наш час можа «пагаварыць». Незнаёмец аказаўся надзвычай настойлівым і ўсё ж прывёз Камоцкаму падзяку за канцэрт у выглядзе дамашняга сала. Маўляў, мы ведаем, які ў артыстаў цяжкі хлеб.

Алесь Камоцкі і сапраўды не надта часта мазоліць вочы беларускай публіцы: шэсць апошніх гадоў у яго не было сольных канцэртаў. 1 чэрвеня быў зроблены прарыў: Камоцкі спяваў для самай выбранай публікі ў памяшканні мінскага тэатра «Дзе-я?» І тут знайшліся расчуленыя жанчыны, якія падносілі выканаўцу і кветкі, і прадукты харчавання.

Між іншым, не толькі спевамі парадаваў Камоцкі. Як чалавек, які мае пэўны вопыт працы ў гандлі, ён наладзіў імправізаваную краму. У якасці тавару прапаноўваліся свежавыдадзены зборнік вершаў (дарэчы, першы за сорак гадоў жыцця) і касета з запісамі песень на словы Уладзіміра Жылкі, рэпрэсіраванага беларускага паэта. Кожны мог падысці да століка, узяць ці адно, ці другое, ці ўсё разам, пакінуўшы ўзамен столькі грошай, колькі не шкада за працу сябра. І ніякага гандляра. Тавар добра разыходзіўся. А торба паціху запаўнялася грашыма.

**Сто гадоў таму на дарогах Расійскай імперыі з'явіліся першыя аўтамабілі. Першымі ўладальнікамі лепшых аўто станавіліся кіруючыя асобы. Традыцыя перадалася ад манарха — да генсека, ад генсека — да прэзідэнта. Аб гэтым сведчаць публічныя прызнанні іх бліжэйшых памочнікаў.**

ЗАБАЎНАЕ

# МАНАРХ, ГЕНСЕК І ПРЭЗІДЭНТ любілі аўто, але кожны па-свойму



Фота IREX/ProMedia.

***Начальнік канцылярыі Міністэрства Імператарскага двара А. МАСОЛАЎ:***

Першыя аўтамабілі маркі «Серпалет» з'явіліся ў Пецярбургу ў 1901 ці 1902 годзе. Адна з гэтых машын была куплена графам Фрэдэрыксам (міністр імператарскага палаца. — **Рэд.**), другая — вялікім князем Дзмітрыем Канстанцінавічам. Аўтамабілі былі яшчэ дрэнна распрацаваныя і часта спыняліся без усякай бачнай прычыны.

Аднойчы граф папрасіў у цара дазволу ўзяць свой аўтамабіль у Спалу ў час палявання. Пры першым жа нашым выездзе нам давялося вылезці з экіпажа і асабіста штурхаць яго ў бок, таму што аўтамабіль загарадзіў праезд самому цару. Увесь двор прадэфіліраваў міма нас, і жарты сыпаліся на нас, як гарох. Графу давялося памяняць механіка, і нам удалося зрабіць два новыя выезды, на гэты раз без асаблівых прыгод.

Пасля гэтага граф прапанаваў цару — справа была ў нядзелю — праехаць у аўтамабілі. Цар згадзіўся, відаць, без усякага захаплення. Толькі ад'ехалі ад пад'езда, як давялося спыніцца. Паслалі за коньмі, і няшчасную машыну ўбралі. Світа аднеслася да гэтага інцыдэнту з такім сарказмам, што граф канчаткова адмовіўся ад гэтай задумы.

На наступны год адзін з афіцэраў коннага палка — Квітка-Аснаўяненка — прывёз у Ялту другі аўтамабіль, больш дасканалы, але паліцыя забараніла яму карыстацца гэтай машынай, таму што яна палохала коней. Квітка звярнуўся да графа Фрэдэрыкса з просьбай зняць забарону. Давялося ісці да цара з дакладам. Цар, відаць, успомніў інцыдэнты, што мелі месца ў Спале, і адказаў коратка і беспаваротна:

— Дарагі граф. Пакуль я жыву ў Лівадзіі, аўтамабілі не павінны з'яўляцца ў Крыме.

Мінуў яшчэ год. Цару давялося зрабіць некалькі паездак у аўтамабілі з вялікім герцагам Эрнестам у Франкфурт — наваколле Дармштата. Нават царыца рызыкнула сесці ў гэты дзіўны экіпаж, падобны на амнібус без коней. Відаць, цар пачаў з гэтага моманту ставіцца больш памяркоўна да аўтамабіляў.

Вярнуўшыся ў Царскае Сяло, мы ўбачылі князя Уладзіміра Арлова, які пад'язджаў да палаца на элегантнай машыне («Дэлона-бельвіль»). Пасля снедання цар пажадаў праехацца на гэтай газавай штуковіне. Аб'ехалі вакол парку, і цар адразу ж параіў і царыцы зрабіць «экскурсію».

Арлоў паспяшаўся прапанаваць машыну іх вялікасцям. Прагулкі зрабіліся амаль штодзённымі, і гэта было тым лягчэй, што гараж князя ўзбагачаўся новымі, больш удасканаленымі машынамі. Князь, можна сказаць, не адыходзіў ад руля машыны. Ён вазіў, куды трэба было, іх вялікасці. Баючыся замаху на жыццё ці няшчаснага выпадку, ён не дазваляў свайму шафёру падмяняць сябе.

Месяцаў праз шэсць Фрэдэрыкс спытаўся ў цара, ці не жадае ён набыць звышудасканаленую машыну. Цар адказаў паспешліва:

— Канешне, канешне... Мы злоўжываем паслугамі Арлова, і гэта становіцца недалікатным. Закажыце дзве ці тры машыны. Даручыце гэтую справу Арлову. Ён разбіраецца ў аўтамабілях лепш за ўсякага прафесіянала.

У канцы года імператарскі гараж быў ужо поўны. Спачатку з'явілася дзесяць аўтамабіляў, потым дваццаць, вырасла нават школа шафёраў. Арлоў працягваў асабіста вазіць цара.

І толькі тады, калі фабрыка прыслала яму асабліва рэкамендаванага шафёра (француза), князь згадзіўся дарučыць яму каштоўнае жыццё іх вялікасцяў. Але нават і з гэтым новым шафёрам ён прымаў вялікія перасцярогі, тыдні чатыры ездзіў з ім побач, назіраючы.

Праз некалькі гадоў у цара стварыўся адзін з самых вялікіх аўтамабільных паркаў у Еўропе.

***Асабісты целаахоўнік Генеральнага сакратара ЦК КПСС Л. І. Брэжнева генерал-маёр Уладзімір МЯДЗВЕДЗЕЎ:***

— З часоў вайны Брэжнеў вадзіў машыны розных марак і любіў ліхую язду. Аднойчы ён даімчаў да Завідава, калі дакладна, гэта 148 кіламетраў, за 50 хвілін!

Калі пачалася і хутка запрагрэсіравала хвароба, ён пачаў губляць сілу і рэакцыю, але не разумеў гэтага, па-ранейшаму садзіўся за руль, і для аховы наступалі незабыўныя хвіліны — і ў Рабенкі, і ў мяне спіны былі мокрыя. Адзін раз імчалі пасля палявання з Завідава. Брэжнеў — за рулём.

— Нешта направа мяне цягне...

Вадзіцель сядзіць побач.

— Скорасць, скорасць зніжайце, і направа, направа!

Аказалася, лопнула правае пярэдняе кола. Як ён утрымаў на такой скорасці руль — незразумела.

У другі раз, у Крыме, калі снатворнае яшчэ не выветрылася, ён сеў за руль іншамаркі, пасадзіў побач дзвюх жанчын-урачоў і паімчаў з Ніжняй Арэанды ў паляўнічую гаспадарку. Гэта здарылася без мяне. Ён яшчэ не прачнуўся, на крутым павароце не справіўся з кіраваннем, але паспеў націснуць на тормаз, і пярэдняе кола літаральна павісла над абрывам.

Некалькі разоў яму (а значыцца і нам) проста пашанцавала.

... Кіраўнікі дзяржавы ведалі слабасці Генеральнага, і ў яго сабралася нямала цудоўных падарачных аўтамабіляў. Англійскі чорны «Роллс-Ройс», які ён любіў больш за ўсе іншыя (падараваны быў яму даўно, яшчэ да мяне), два нямецкія блакітныя «мерседэсы», японскі «Прэзідэнт», «Кадылак», «Лінкольн».

— «Лінкольн» «жидковат», — гаварыў ён. Што гэта азначала, не ведаю.

Гэта ўсё былі яго асабістыя машыны. Каб яны не застойваліся, ён імкнуўся захоўваць чарговасць язды на іх.

Як чалавек ваенны, лічыў: садзіцца за руль службовай машыны ён не мае права, яна табе не належыць. Хочаш сесці за руль — бяры асабісты аўтамабіль. Калі было дрэннае надвор'е — дождж ці галалёдзіца, мы імкнуліся яго падмануць і прапаноўвалі службовы ЗІЛ, загадзя ведаючы, што за руль ён не сядзе. Ён адмаўляўся, настойваў на сваім і іншы раз назначаў іншамарку сам:

— У мінулы раз на якой машыне ездзіў? На «Лінкольне»? Давай «Мерседэс».

Калі ехалі на дзяржаўнай машыне, часта не даваў вадзіцелю спакою, падганяў:

— Дабаў скорасць! Ты ж не малако вязеш.

За тыдзень да таго, як нашы генеральныя сакратары накіроўваліся ў Крым на адпачынак (і пры Брэжневе, і пры Гарбачове) у адзін-два вагоны загружалі «ЗІЛы», «Волгі» і накіроўвалі зараней на поўдзень. Пры Леанідзе Ільічу грузілі яшчэ і пару іншамарак: абавязкова чорны «Роллс-Ройс» і яшчэ што-небудзь у дадатак. Іншы раз адразу пасля прылёту ў Сімферопальскі аэрапорт ён садзіўся за руль.

Калі за абаранкам вадзіцель, да Ялты мы даязджалі хвілін за 40, Ніжняй Арэанды — за 1 гадзіну 10 хвілін. Калі за руль садзіўся Леанід Ільіч, а з ім побач — Вікторыя Пятроўна, ён пры ёй асабліва не ліхачыў, мы дабіраліся да месца за 1,5—2 гадзіны.

**Ірына ПЕТРАКОВА,**
**уласны карэспандэнт «Звязды» ў Маскве.**

*(Заканчэнне ў наступным нумары).*

## СТАРОНКА ПАЎЛА ГЛОБЫ

**7 чэрвеня, нядзеля**

***Рэкамендацыі.*** Не пачынайце мерапрыемстваў, якія патрабуюць актыўнасці, будзьце пільнымі і сачыце за словамі. Добра пабыць сам-насам. Найлепшы час для пачатку навучальнага працэсу, накаплення інфармацыі. Можна пачынаць доўгатэрміновы лячэбны цыкл. Удзяліце больш увагі дому і сям'і. Успомніце свае памылкі, сумленна ацаніце іх і хаця б у думках пастарайцеся іх выправіць. Абавязкова памяніце сваіх продкаў, даруйце крыўды блізкім. Аддайце перавагу кашам, малочным прадуктам, выключыце салодкую, горкую і вострую ежу. А вось саленні ў гэты дзень можна есці ў дастатковай колькасці.

***Медыцына.*** Не рэкамендуецца лячыць палавыя органы. Можна лячыць усе хваробы насаглоткі.

**Падрыхтавана да друку спецыяльна для «Звязды» астралагічным цэнтрам «АРБА».**

## ВІНШАВАННІ

**Святлану АДАМОВІЧ з г. Чэрвеня** віншуюць з днём нараджэння бацькі і сям'я брата. Зычым ёй моцнага здароўя, шчасця, поспехаў ва ўсім.

Шчыра віншуем з 70-годдзем **Ванду Юльянаўну РЫМША з в. Супраненты.** Жадаем здароўя, дабрабыту, цяпла ад родных, радасці ад унукаў.

***Нявестка, унукі.***

Сардэчна віншуем дарагіх бацькоў **Уладзіміра і Ніну ВЯРБІЛАЎ з в. Станькі Капыльскага раёна** з залатым вяселлем. З гэтай нагоды жадаем шчасця, дабрабыту і доўгіх гадоў сумеснага жыцця на радасць дзецям і ўнукам!

***Родныя, сваякі, сваты.***

Шчыра віншуем з 45-годдзем з дня нараджэння **Аляксандра Іванавіча КІЙКО з в. Аранчыцы Пружанскага раёна**. Жадаем далейшых поспехаў у жыцці.

***Сям'я Мацюкевічаў.***

ПЛАНЕТА ЖЫВЁЛ

# АБ ТЫМ, ШТО ВЫ ХАЦЕЛІ ДАВЕДАЦЦА ПРА ЖЫВЕЛ, АЛЕ САРОМЕЛІСЯ СПЫТАЦЬ

Сёння мы зоймемся тым, што паспрабуем развянчаць некаторыя легенды, байкі і меркаванні, якія нічога агульнага з сапраўдным станам рэчаў не маюць, і проста нічым не прыкрытую хлусню, што так ці інакш датычыцца розных прадстаўнікоў фауны.

### ЦІ ТАКІ КАСАЛАПЫ МЯДЗВЕДЗЬ, ЯК ЯГО МАЛЮЮЦЬ?

«Мишка косолапый по лесу идет...» — відаць, менавіта з гэтага, вядомага нам з самага ранняга дзяцінства верша і пайшла легенда пра славутую касалапасць усіх мядзведзяў. Паходка гэтага звера сапраўды «з касалапінкай», але гаварыць пра праявы нейкай хваробы ў гэтым выпадку можа толькі недасведчаны чалавек. Па вялікаму рахунку з лапамі ў мядзведзя ўсё нармальна, а ўражанне касалапасці (асабліва пярэдніх лап) з'яўляецца з-за таго, што гэты звер ставіць пярэднія лапы крыху пад вуглом для лепшай апоры. Наогул мядзведзяў лічуць гэткімі дабрадушнымі цельпукамі, вельмі марудлівымі і нязграбнымі. З гэтым у корані не згодныя работнікі заапаркаў і цыркавыя дрэсіроўшчыкі. Па іх словах, няма драпежніка больш каварнага і непрадказальнага, чым мядзведзь. Гэта адзіны з цыркавых драпежнікаў, якіх на арэну выпускаюць у намордніку. Асноўная небяспека ў рабоце з мядзведзямі заключаецца ў тым, што немагчыма прадугледзець і папярэдзіць яго напад. Калі тыгр ці леў, перад тым як кінуцца, паводзяць сябе вельмі характэрна: рыкаюць, ашчэрваюцца, спрабуюць ударыць чалавека лапай, дык мядзведзь ні адзіным мускулам да самага апошняга моманту не выдае сваіх намераў.

Наконт нязграбнасці мядзведзяў варта сказаць, што «крэйсерская» скорасць мядзведзя, які бяжыць на кароткую дыстанцыю, можа дасягаць 40 кіламетраў у гадзіну. Пра вялікі спрыт мядзведзя гаворыць таксама тое, як ён ловіць рыбу. Сваёй лапай гэты звер можа і пераламаць хрыбет быку, і падчапіць з зямлі маленькага жука сабе «на дэсерт».

### ЦІ МАЮЦЬ «СТРАУСІНЫЯ» ПАВОДЗІНЫ ДАЧЫНЕННЕ ДА СТРАУСА?

Адна з устойлівых ваколбіялагічных легенд гаворыць аб тым, што афрыканскія страусы ў выпадку, калі не могуць уцячы ад ворагаў, спыняюцца і хаваюць галаву ў пясок. Страус, якога праследуюць на кані, а ў наш час і на аўтамабілі, зразумела, вельмі доўга бегчы не можа. Калі сілы яго пачынаюць пакідаць, ён робіць апошні віраж, звычайна ў бок бліжэйшага хмызняку, замірае і, нарэшце, апускае сваю доўгую шыю да зямлі. Вучоныя гэтае дзеянне тлумачаць тым, што страус з апушчанай долу галавой, па-першае, менш прыкметны ў афрыканскай саване, а па-другое, такім чынам ён адпачывае перад наступным кідком. Калі б страус сапраўды хаваў галаву ў пясок, дык ён проста задыхнуўся б.

### НАВОШТА КІТ ВЫПУСКАЕ ФАНТАНЫ ВАДЫ?

Пачнём з таго, што фантаны вады кіт не выпускае. Тое, што доўгі час прымалася за фантан, уяўляе сабой кандэнсат (пару), які ўтвараецца ў целе з-за розніцы ціску і тэмпературы паміж кітовымі лёгкімі і навакольным асяроддзем у момант выдыху. Тое ж самае мы можам назіраць і ў нас саміх, калі дыхаем на марозе. Кіт можа выпусціць фантан вады, які часта бывае крывавым, у тым выпадку, калі ён цяжка паранены і захлынаецца. Магчыма, легенда пра фантан узнікла з-за таго, што чалавеку з-за яго жорсткасці часцей за ўсё даводзілася сустракацца менавіта з параненымі ім жа кітамі.

### ЧАМУ РАК АДЫХОДЗІЦЬ НАЗАД?

Напэўна, таму, што яму так хочацца. Дарэчы, у асноўным ракі ходзяць, як і пераважная большасць усіх астатніх жывёл, а менавіта — галавой наперад. Гэта маглі бачыць усе, хто хоць аднойчы назіраў за імі ў акварыуме. А падаецца назад рак у асноўным толькі тады, калі нечым напалоханы. Напрыклад, у каструлі (як вы ведаце, ракаў прынята варыць жывымі). Яшчэ гавораць «чырвоны, як рак». Недакладная прымаўка, трэба гаварыць: «чырвоны, як вараны рак». Што цікава, блізкія сваякі нашых рачных ракаў — крабы, сапраўды ў асноўным перасоўваюцца крыху незвычайна, але не задам наперад, а бокам.

### ДЗЕ ВОДЗЯЦЦА ГАДЗЮКІ?

На балоце, зразумела! — скажуць большасць з нас. І часткова будуць мець рацыю, але, збіраючы журавіны на купінах сярод балота, гадзюк баяцца не трэба. Калі вы і сустрэнеце там змяю, што здараецца даволі рэдка, дык хутчэй за ўсё вужа. Гадзюкі сырасць не любяць. Іх звычайнае месца жыцця — сухія месцы: ускрайкі лесу і лясныя паляны, зараснікі чарніц і суніц. Водзяцца гадзюкі і на сухіх верхавых балотах, тых, што густа зараслі імхом-сфагнумам.

### ЯКІЯ ПТУШКІ САМЫЯ ШМАТЛІКІЯ?

Тут меркаванне можа раздзяліцца. Адны, упэўнены, кажуць: галубы, другія назавуць вераб'ёў. І тыя і другія памыляюцца. Самая шматлікая на планеце Зямля птушка — хатняя курыца. Агульная колькасць курэй на зямлі вельмі вялікая — прыкладна каля шасці мільярдаў, г. зн. крыху больш за адну птушку на кожнага жыхара планеты. Ну, а вераб'і таксама вельмі шматлікія, разам з чалавекам яны праніклі літаральна ва ўсе вобласці Зямлі і паспяхова там прыжыліся. Няма гэтых праныр пакуль толькі ў Антарктыдзе, але, як кажуць, «яшчэ не вечар».

### ЧАГО БОЛЬШ ЗА ЎСЁ БАЯЦЦА ДЗІКІЯ ЖЫВЁЛЫ?

«Агню, канешне ж!» — магчыма, скажа чытач. Прынамсі, да нядаўняга часу я думаў гэтак жа, пакуль не прачытаў адну з кніжак вядомага нямецкага заолага Вернарда Гржымека. Ён сцвярджае, што жывёлы агню не баяцца, і, улічваючы вопыт і аўтарытэт гэтага чалавека, мы не маем ніякіх падстаў яму не верыць. Гржымек піша: «Я ніколі не заўважаў, каб у жывёл быў прыроджаны страх перад агнём, як гэта часта сцвярджаецца ў кніжках. Ільвы, напрыклад, спакойна падыходзяць зусім блізка да агню і кладуцца ў яшчэ цёплы попел. Аднойчы ў Банагі мы распалілі вялікае вогнішча і селі ў шэзлонгах вакол яго, каб сагрэцца. У гэты час за шэсць метраў ад нас прайшло сямейства львоў, не звяртаючы ніякай увагі ні на нас, ні на наша вогнішча».

А ад лясных і стэпавых пажараў усе звяры сапраўды ўцякаюць стрымгалоў, але ж і мы з вамі не млеем ад захаплення, бачачы пажар.

### ПРА СХІЛЬНАСЦЬ СКАРПІЁНАЎ ДА СУІЦЫДУ

З кнігі ў кнігу вандруе легенда аб тым, што, калі змясціць скарпіёна ў цэнтр круга, выкладзенага з тлеючага вугалля, каб не гінуць пакутлівай смерцю, ён сам сабе наносіць укол ядавітым шыпом, размешчаным на кончыку хваста, у спіну. Але яд скарпіёна зусім бясшкодны для саміх скарпіёнаў. Акрамя таго, ад даволі прымітыўнага членістаногага цяжка было б чакаць паводзінаў, вартых японскага самурая. Але абкладзены з усіх бакоў агнём скарпіён сапраўды гіне. Праўда, па прычынах даволі празаічных: ён гіне ад гарачыні і шматлікіх апёкаў. Нягледзячы на страшны выгляд, гэта даволі пяшчотная і кволая жывёліна, якая гіне на працягу 15 хвілін нават пад промнямі паўднёвага сонца. Таму скарпіён і бавіць увесь светлы час сутак пад карой, камянямі і ў розных шчылінах.

### ЦІ ЗДОЛЬНЫ ЛЯТАЦЬ «НАРОДЖАНЫ ПОЎЗАЦЬ»?

У асноўным «народжаныя поўзаць», г. зн. рэптыліі (змеі, яшчаркі, чарапахі і кракадзілы), лятаць, канешне ж, не ўмеюць. Але сярод усяго гэтага шматлікага класа жывёл ёсць некалькі відаў, якія валодаюць здольнасцю да прымітыўнага палёту. Сярод іх можна назваць «лятаючага дракона» з Паўднёва-Усходняй Азіі. Гэта невялікая, даволі бляклая яшчарка, якая ў звычайным сваім спакойным стане бавіць час грэючыся на ствалах дрэў. У выпадку небяспекі дракон распраўляе крылы, якія ўяўляюць сабой складкі скуры, расцягнутыя паміж падоўжанымі рэбрамі, і кідаецца з вялікай вышыні. Строга кажучы, драконы не лятаюць, а плануюць на адлегласць каля сотні метраў, чаго зусім дастаткова, каб уцячы практычна ад любога ворага. У тых жа трапічных лясах водзяцца драўняныя змеі, іх некалькі відаў — тыя, пра якіх пойдзе размова, належаць да роду хрызапелія. Гэтыя змеі палююць на дробных драўняных яшчарак, якіх лягчэй за ўсё сустрэць на ствалах і ў кронах дрэў. У пошуку змяя і вымушана залазіць вельмі высока — у самы верхні ярус трапічнага лесу, іншы раз на вышыню да трыццаці метраў. Калі залезці на дрэва змяі няцяжка, дык спусціцца — вялікая праблема. У кожнай змяі свае спосабы спуску. Наша ж гераіня знайшла самы арыгінальны. Скруціўшыся, як спружына, змяя рэзка выпроствaецца і скача з вялізнай вышыні. У палёце яна выцягваецца стралой, яе цела ў сваім сячэнні становіцца падобным на самалётнае крыло. Пасля мяккай пасадкі метраў за трыццаць ад старту змяя накіроўваецца да наступнага дрэва.

**Падрыхтаваў Арцём ХАНІН.**

САКРЭТЫ КУХНІ

# Абед у глыбокай талерцы



**Як вы ставіцеся да супу? Пытанне не выпадковае: бадай, ні адна страва не выклікае такіх супярэчлівых меркаванняў, як першая. Хто лічыць, што яго зусім не варта гатаваць: лішнія калорыі і кілаграмы, а карысці ніякай. Другія сцвярджаюць, што менавіта суп дае неабходнае сілкаванне без лішніх нагрузак, нездарма ў даўніну ён быў галоўнай стравай на стале, замяняючы іншы раз і другую, і трэцюю.**

**Медыкі ж упэўненыя, што суп неабходны хаця б для нармальнага страввання, асабліва рэкамендуюць яны супы з агародніны. Таму і мы раім больш не спрачацца, а прапанаваць сваім дамачадцам некалькі рэцэптаў смачных і арыгінальных супоў. Няхай вырашаюць самі, ці ўключаць іх у пастаяннае сямейнае меню.**

## Мучны суп

Пшанічную муку (2 ст. лыжкі на порцыю) падсмажваем на патэльні да залацістага колеру, разводзім невялікай колькасцю халоднага булёну, уліваем у астатні булён, які кіпіць, добра размешваем, каб не ўтварыліся камячкі, варым 20 хвілін. Солім, перчым. Падаючы на стол, запраўляем сырым жаўткам.

*На 2 л булёну — 125 г мукі, 1 жаўток.*

Калі ў такі суп дабавіць масла або смятану, то можна абысціся без жаўтка, мукі ўзяць менш (100 г на 2 л булёну), а варыць прыйдзецца ўсяго чвэрць гадзіны. Масла або смятаны спатрэбіцца 30—50 г.

## Зялёныя

Шчаўе мыем, наразаем, тушым на патэльні ў масле, перакладваем у каструлю, разводзім халоднай вадой, дабаўляем нарэзаную бульбу і варым каля гадзіны. Праціраем праз сіта, дабаўляем узбіты жаўток. Калі хочаце прыгатаваць суп гусцейшы, можна, перад тым як уліць халодную ваду, дабавіць у шчаўе муку з разліку 15 г на порцыю. Кладзём па смаку соль і перац, перад падачай на стол дабаўляем масла (20 г на порцыю).

*На 2 л вады — 260 г шчаўя, 500 г бульбы, 1 жаўток, 50 г масла.*

Гэтак жа варым суп з зеляніны пятрушкі, толькі яе прыйдзецца працерці праз сіта.

А вось як гатуецца арыгінальны французскі суп. Чысцім і мыем зялёную агародніну (цыбулю, парэй, шчаўе, сельдэрэй, пятрушку і г. д.), рэжам і абсмажваем у разагрэтым масле. Разводзім гарачай вадой. Солім, перчым, кладзём лаўровы ліст, даём закіпець, тады апускаем парэзаную бульбу. Варым 45 хвілін, праціраем праз сіта, дабаўляем расцёртыя ў пюрэ памідоры без скуркі.

*На 2 л вады — 250 г зяленіва, 500 г бульбы, 200 г памідораў, 80—100 г масла.*

## З агародніны

Па 500 г морквы і бульбы, напалову менш рэпы дробна рэжам, заліваем халоднай вадой (2 л) і варым на слабым агні паўтары гадзіны. Затым солім, перчым, дабаўляем абсмажаную цыбулю. Потым усё праціраем праз сіта. Варым яшчэ 20 хвілін, падаём з кавалачкамі хлеба, абсмажанымі ў масле.

ВАША ЗДАРОЎЕ

# Салодкія вусны

Тым, у каго баляць і трэскаюцца вусны, раім іх лячыць не гігіенічнымі памадамі, а натуральным пчаліным мёдам. Толькі ён павінен быць маладым, незацукраваным.

Змазвайце на ноч вусны залацістым цягучым мёдам, і яны будуць пяшчотнымі і яркімі, як пялёсткі ружаў.

-1382-

КАСМЕТЫКА

# Вітаміны для валасоў

**Лета — самая цудоўная пара, каб «падкарміць» і падлячыць вашы валасы натуральнымі зялёнымі вітамінамі.**

## Для сухіх валасоў

■ Калі валасы тонкія і сякуцца, у скуру галавы ўцірайце сумесь з роўных частак сокаў капусты, лімона і шпінату.

■ Для паласкання афарбаваных валасоў добры настой мяты: 2 ст. лыжкі мяты заварыце шклянкай кіпеню і настойвайце 30—40 хвілін.

■ Калі моцна выпадаюць валасы, уцірайце ў скуру галавы сок пятрушкі.



## Для тлустых валасоў

■ Калі вы змяшаеце роўную колькасць соку агурка і гарэлкі або адэкалону, атрымаецца агурочны ласьён для валасоў. Захоўвайце яго ў халадзільніку.

■ Перад кожным мыццём валасоў вельмі карысны наступны састаў: 2 ст. лыжкі соку цыбулі і 2 ст. лыжкі рыцыны. Састаў ўватрыце ў карані валасоў. Затым на галаву надзеньце поліэтыленавую шапачку і закруціце махровым ручніком. Састаў трымайце 30—40 хвілін. Потым памыйце валасы шампунем.

■ Настойка цыбулі на гарэлцы. Цыбуліну разрэжце папалам, заліце 0,5 шклянкі гарэлкі і настойвайце 14 дзён. Уцірайце настойку ў скуру галавы. А каб пазбавіцца ад паху цыбулі, мыйце валасы гарчыцай.

## Для паляпшэння росту любых валасоў

■ Нацёртую на дробнай тарцы цыбуліну (4 часткі) змяшайце з 1 часткай мёду. Сумесь уватрыце ў карані валасоў і змыйце праз 40 хвілін цёплай вадой без шампуню.

■ Разатрыце 1 ч. лыжку карэнняў пятрушкі, дабаўце 1 ч. лыжку спірту і 2 ч. лыжкі рыцыны. Сумесь уцірайце праз дзень у скуру галавы. Курс — 15 працэдур.

■ Для паляпшэння росту валасоў кашку з памідораў уцірайце ў скуру галавы.

■ Для ўмацавання валасоў уцірайце ў скуру сок рэдзькі.

■ Пры ранняй сівізне і для ўмацавання валасоў рэкамендуецца адвар насення кропу.

■ Пры моцным выпадзенні валасоў змяшайце 1 ст. лыжку мёду з 1 ст. лыжкай соку альясу і 1 ч. лыжкай соку часнаку. Перад мыццём галавы да 1 ст. лыжкі сумесі дабаўце жаўток. Сумесь уватрыце ў скуру галавы, завяжыце хусткай, а зверху надзеньце цэлафанавую шапачку. Праз 20 хвілін валасы памыйце, уватрыце яшчэ жаўток і апаласніце адварам з траў. Курс — 5 разоў запар.

РАПТАМ СПАТРЭБІЦЦА

# Для вострых кіпцюроў



Калі ў вас у кватэры з'явілася кошка, гэтая гуллівая істота абавязкова пачне вастрыць свае кіпцюры. Каб ад гэтага не цярпела ваша мяккая мэбля, а таксама шпалеры, прапануем вельмі просты і, галоўнае, ужо выпрабаваны спосаб. Вазьміце звычайны мяшок, разрэжце яго на часткі і кавалкамі мешкавіны абкруціце ножкі кухоннага стала. У некалькіх месцах прымацуйце яе цвікамі. Кацяня хутка прывыкне менавіта тут «выпускаць» кіпцюры і вам будзе вельмі ўдзячнае за клопаты.

-1383-

# Блізняты атрымаюць нечаканы прыбытак, а вось Шалям планеты не спрыяюць

КАЗЯРОГА чакаюць сумныя весткі. Магчыма, прычынай вашага сардэчнага болю стане вераломства даўняга сябра ці блізкага сваяка. Калі так, не жадайце ім ліха, наведайце храм Божы і звярніцеся да Творцы з просьбай абразуміць тых, хто «не ведае, што робіць». Да канца тыдня дэпрэсія пройдзе.

ВАДАЛЕЙ па-алімпійску спакойны і эфектыўна кантралюе даволі зменлівую абстаноўку. Хтосьці сарве буйны куш праз пасрэдніцкія паслугі ці рэкламную дзейнасць. Адвакат атрымае бліскучую перамогу ў скандальным судовым разборы. Даб'юцца значнага поспеху асобы, занятыя навуковымі ці іншымі даследаваннямі. Рыцары, памятайце аб тым, што звычайны букет кветак здольны здзейсніць сапраўдны цуд.

РЫБЫ, не кідайце справу на паўдарозе да завяршэння, яна можа стаць для вас каменем на шыі тапельца. Будзьце гатовыя да таго, што вас абвінавацяць у чужых грахах. Праявіце максімум асцярожнасці пры грашовых аперацыях, каб пазбегнуць буйных страт.

Перад АВЕНАМ адкрываюцца новыя спрыяльныя магчымасці. Яны звязаны ў першую чаргу з бізнесам і павышэннем па службовай лесвіцы. Тыя, хто часова аказаўся нічым не занятым, атрымаюць заманлівую прапанову працаўладкавання. Адзінокая дама набудзе адданага паклонніка, надзеленага мноствам добрых якасцяў. Серада і пятніца — ідэальныя дні для спатканняў закаханых.

ЦЯЛЬЦА не раз выручыць аналітычны склад розуму. Вы знойдзеце выйсце нават з тупіковай сітуацыі. Дзелавое партнёрства, якое аказалася на грані краху, набудзе другое дыханне. Не спяшайцеся ў пачатку тыдня падпісваць якія-небудзь дакументы.

Большасць БЛІЗНЯТ атрымаюць нечаканыя грошы. Фартуна ўсміхнецца нават бедалагу-бамжу. Паспрабуйце набыць дзесятак латарэйных білетаў — верагоднасць выйгрышу на гэтым тыдні даволі высокая. Можна выпрабаваць лёс за зялёным сталом, але не варта рабіць буйныя стаўкі. Жаночая прадпрымальнасць будзе шчодра ўзнагароджана. У пачатку тыдня пазбягайце любых моўных спрэчак.

Уласцівая РАКУ тонкая інтуіцыя дапаможа разблытаць клубок праблем, хутчэй за ўсё звязаных з бізнесам ці фінансамі. Верагодна, банкір сярэдняй рукі заключыць даволі выгадную здзелку. Служачы зробіць важны крок па шляху дасягнення сваіх кар'ерных памкненняў. Прыемныя навіны могуць паступіць з-за мяжы.

Калі ЛЬВА і чакаюць узрушэнні, то выключна ў справах сардэчных. Што датычыць работы і прадпрымальніцтва, то ніякіх непрыемнасцяў не прадбачыцца. Тыя, хто чакае важнага рашэння зверху, атрымаюць станоўчую рэзалюцыю. Астролаг рэкамендуе правесці чарговы адпачынак не на Канарах, а ў ціхай вёсачцы. Вакол дамы кружыць вельмі назойлівы паклоннік.

На астралагічным гарызонце ДЗЕВЫ выразна бачны нейкія важныя жыццёвыя перамены. Не выключана, што вы вырашыце змяніць месца работы ці паехаць у іншы горад. Магчымы замарочкі, звязаныя з уласнасцю. Вас чакаюць буйныя расходы. Камусьці з вашых сяброў ці сваякоў можа спатрэбіцца тэрміновая дапамога. Абавязкова апранайце на гэтым тыдні што-небудзь белае ці блакітнае.

У ШАЛЯЎ на пачатку тыдня могуць узнікнуць прыкрыя перашкоды, выкліканыя неспрыяльным размяшчэннем планет. Набярыцеся тярпення і прыміце ўсё як ёсць. На дадзеным этапе акалічнасці вышэй за вас і пераламаць іх не ўдасца. Адкладзіце важныя справы да чацвярга, калі фартуна верне вам сваю прыхільнасць.

Працуйце, СКАРПІЁНЫ, але не чакайце неадкладнай аддачы. На гэтым тыдні трэба будзе працаваць пераважна на перспектыву. Завяжаце карысны кантакт з уплывовай персонай, блізкай да ўрада ці гарадской адміністрацыі. Працуючую даму, выматае нудная руціна. Не мяняйце месца работы, хутка абставіны зменяцца да лепшага. Прыслухайцеся да самаадчування.

СТРАЛЬЦУ давядзецца пастаянна то чакаць, то даганяць. Калі праявіце належныя цярплівасць і мэтанакіраванасць, то пачняце перамяшчацца ад перыферыі падзей да іх эпіцэнтра. Ваш талент атрымае ўсеагульнае прызнанне. Адзіны магчымы неспрыяльны фактар — рызыка дапусціць памылку, звязаную з грашыма ці фінансавымі дакументамі.

**Сяргей БУЛАНЦАЎ,**
**кар. ІТАР—ТАСС.**

*Дэлі.*

КАРЫСНЫЯ ПАРАДЫ

# «Абутак» для слупоў

**Пры ўзвядзенні гаспадарчых пабудоў часта ў якасці асновы каркаса прымяняюцца слупы, якія закопваюцца ў зямлю. Тую частку слупоў, што павінна знаходзіцца ў зямлі, абпальваюць, прамазваюць гарачым бітумам або прамочваюць антысептыкамі, аднак тэрмін службы нават апрацаваных слупоў складае ўсяго 10—15 гадоў.**

Каб павялічыць тэрмін службы слупоў, можна «абуць» іх у асбестацэментныя трубы. Для гэтага. камлёвая частка добра прасушанага слупа зразаецца так, каб ён з намаганнем уваходзіў у трубу на глыбіню не менш чым 50 см пры вышыні слупа 2-3 м і на глыбіню 70 см — пры вышыні 4-5 м. Перад тым як надзець трубу на слуп, яе і камель бервяна трэба двойчы прамачыць пракіпячоным і прафільтраваным машынным маслам, каб выключыць пападанне капілярнай вільгаці.

Пасля падсыхання масла трубу набіваюць пры дапамозе драўлянага штурхана на слуп. Даўжыня трубы павінна быць на 10—20 см большая, чым зрэзаная частка слупа. Гэтую частку спачатку запаўняюць на 1 см расплаўленым бітумам, а пасля яго астывання — бетонам М 100.

Пад слуп вырываюць ямку патрэбнай глыбіні. Калі глеба на гэтай глыбіні гліністая, трэба пракапаць глыбей, а на дно насыпаць і ўтрамбаваць слой пяску таўшчынёй 20 см. Пад слуп пакласці плоскі камень, бетонную пліту або дно ямы заліць бетонам слоем 10—15 см.

Павелічэнню тэрміну службы пабудовы садзейнічае і адмостка, якая адводзіць дажджавую ваду ад пабудовы і не дае расці траве ў непасрэднай блізкасці ад сцен. Дошкі абшыўкі павінны засцерагаць слуп ад пападання на яго вільгаці. Ніжнія дошкі абшыўкі неабходна апрацаваць антысептыкам або прамазаць бітумам.




*1 — драўляны слуп, 2 — асбестацэментная труба, 3 — бітум, 4 — бетон, 5 — камель або бетонная пліта, 6 — пясчаная падушка, 7 — адмостка, 8 — ніжняя дошка абшыўкі.*

# Незвычайная роля звычайных рэчаў

**Прапануем некалькі ідэй па выкарыстанню пластмасавых бутэлек з-пад газіраваных напіткаў.**



❍ Каб дажджавая вада не ўсмоктвалася ў слупы плота праз верхні зрэз, паскараючы іх гніенне, надзеньце на канцы слупоў бутэлькі, папярэдне адрэзаўшы верхнюю частку.



❍ Зручную лейку для фільтравання вады можна зрабіць з такой жа бутэлькі, калі адрэзаць у ёй дно, у корку прарабіць 5-6 дзірачак, а ў рыльца пакласці слой ваты.

❍ Садаводам-агароднікам, якія бываюць на сваіх участках толькі ў выхадныя дні, раім скарыстаць наступную параду: гарачым металічным прадметам невялікай таўшчыні (цвіком, вязальным прутком) прарабіце ў ніжняй частцы бутэлькі шмат адтулін і ўкапайце бутэлькі паміж кусцікамі вільгацелюбівых раслін (агуркоў, таматаў, капусты). Градку добра паліце, а бутэлькі напоўніце вадой. Вільготная глеба не дазволіць вадзе расходавацца адразу, таму на працягу тыдня вашы расліны не будуць пакутаваць без вільгаці.



-1384-

СПРАВЫ ХАТНІЯ

# Лёгка і хутка навядзём парадак

**Хто не марыў аб тым, каб нават у маленькай кватэрцы было прасторна і заўсёды панавалі парадак і ўтульнасць. А між тым для гэтага зусім не патрэбна чароўная палачка.**

**Як правіла, больш за ўсё клопатаў прычыняюць такія празаічныя рэчы, як каструлі і іншыя «дробязі жыцця», якія маюць звычку рассейвацца па кватэры і прападаць у самы патрэбны момант. Каб гэтага не здаралася, прапануем звярнуцца да нескладаных хітрасцяў. Напрыклад, такой: памяншаючы адлегласць паміж паліцамі ў кухоннай шафе, можна павялічыць іх колькасць.**

## Усе каструлі па ранжыру

вы не паверыце, але ў крыху перабудаванай вузкай шафе для бялізны можна зручна размясціць не толькі цэлы сталовы сервіз, але і ўсе каструлі, кухонныя прылады, а таксама запасы прадуктаў. Вядома, што гэта магчыма толькі пры ўмове аптымальнага выкарыстання прасторы ўнутры шафы. Гэтая ідэя была запазычана ў канструктараў сучасных халадзільнікаў: за кошт памяншэння глыбіні паліц з'явілася магчымасць устанавіць на дзвярах дадатковыя вузкія палічкі, на якіх можна размясціць бутэлькі, слоікі і пакеты. Паверхня, на якой размяшчаецца змесціва шафы, застаецца ранейшай, але пры такой канструкцыі знікае неабходнасць даставаць прадметы з другога рада, усе яны знаходзяцца на вачах. А як лёгка наводзіць парадак!

Дзверы шафы пры гэтым умацоўваюцца рэйкамі, якія павялічваюць трываласць і дазваляюць вытрымліваць дадатковую нагрузку.

## Прыгожыя каробачкі — зручна і стыльна

Калі ў вас дома набралася вялікая колькасць пісьмаў, фатаграфій, прылад для рукадзелля і шмат іншых дробязяў, а месца, на жаль, не хапае, запасіцеся кардонкамі рознага памеру.

Абклейце прыгожай упаковачнай паперай і наклейце этыкеткі з кароткім апісаннем таго, што знаходзіцца ў дадзенай кардонцы. Іх можна расставіць у шафе на вачах, не баючыся нават самага прыдзірлівага вока.

У ПОШУКАХ ШЧАСЦЯ

# Раўнапраўе па-мужчынску

Германскія псіхолагі правялі цікавае даследаванне: як людзі ацэньваюць аднолькавыя ўчынкі мужчын і жанчын. Галоўны вынік псіхолагаў парадаксальны, хаця жанчын ён не здзівіць: **мужчыны лічаць недахопам у жанчынах тое, што ў саміх сябе аб'яўляюць годнасцю.**

⌘ Напрыклад, доўгую размову па тэлефоне мужчыны расцэньваюць як важную размову аб справе. Жанчыны ж заўжды толькі менцяць языкам.

⌘ Калі мужчына пазней вяртаецца з работы — у яго была дзелавая сустрэча, жанчына ж напэўна швэндалася па магазінах, траціла грошы або... Усялякае прыходзіць у галаву.

⌘ Калі муж і жонка выходзяць з сябе і крычаць адзін на аднаго, лічыцца, што мужчына энергічна адстойвае сваё меркаванне. А жанчына — проста істэрычка.

⌘ Калі і той, і другі апранаецца неахайна, то пра мужчыну кажуць: для яго работа важней за адзенне. Ну а жанчына, зразумела, не мае густу.

⌘ Вынік адзін: аб сапраўдным раўнапраўі не можа быць і гаворкі. Нават калі мужчына і жанчына выконваюць адну і тую ж работу. Што і патрабавалася даказаць.

-1385-

## СУБОТНІМ ВЕЧАРАМ

### Крыжаванка



**По гарызанталях**: **3**. Вялікая вада на рацэ ў выніку таяння снягоў. **6**. Майстар, які робіць малюнкі, надпісы на метале. **8**. У вершаскладанні: аб'яднаныя рыфмай і рытмам некалькі радкоў. **10**. Рознабакова развіты, адукаваны чалавек. **11**. Пранікненне мабільных сіл у глыбіню варожай тэрыторыі. **12**. Драпежнік з плямістай шкурай. **14**. Рыбалоўная прылада. **15**. Музычны твор у павольным рытме. **18**. Мемарыяльная кампазіцыя на тэрыторыі Брэсцкай крэпасці-героя. **23**. Адлюстраванне прыроды ў мастацкім творы. **24**. Малюнак з кавалачкаў каляровага шкла. **25**. Яркая зорка ў сузор'і Валапаса. **26**. Спартыўная барацьба з эфектыўнымі прыёмамі самаабароны. **29**. Сузор'е ў паўночным паўшар'і неба. **31**. Генерал арміі, двойчы Герой Савецкага Саюза. **32**. Сумка, каробка для тапаграфічных карт. **36**. Шаўковая тканіна з мяккім ворсам. **37**. Зварот да суда з патрабаваннем аб абароне грамадзянскіх правоў. **38**. Шафа, буфет для настольнікаў, сурвэтак і да т. п. **39**. Яркая зорка ў сузор'і Дзевы. **43**. Слаісты мінерал чорнага колеру. **45**. Балгарская авіякампанія. **46**. Опера П. І. Чайкоўскага. **47**. Вялікая нелятаючая птушка. **50**. Выключэнне спартсмена са спаборніцтваў за тэхнічныя парушэнні правілаў. **51**. Сталіца былой Візантыйскай імперыі. **53**. Рака ва Усходнім Міжземнамор'і. 55. Галоўны персанаж рамана А. Калініна «Цыган». **56**. Спецыяліст па праводцы суднаў у небяспечных для плавання месцах. **58**. Краіна ва Усходняй Афрыцы. **61**. Дзень урачыстасці з якой-небудзь нагоды. **62**. Відавочная ісціна. **63**. Экскурсавод, праваднік пры турыстах. **64**. Паважаная назва вялікіх музыкантаў, жывапісцаў. **69**. Грузінскі традыцыйны народны танец. **70**. Руская народная плясавая песня і танец. **71**. Паходная, дарожная сумка. **75**. Выкананне часткі мелодыі ў хуткім тэмпе. **76**. Аповесць Я. Коласа. **77**. Горны хрыбет у Забайкаллі. **78**. Рыбакамбінат на Гомельшчыне. **82**. Горад у Іванаўскай вобласці Расіі са славутай вытворчасцю лакавых вырабаў. **83**. Вялікія грошы. **85**. Вандроўны фокуснік. **87**. Спартыўнае або турысцкае парусное судна. **88**. Раённы цэнтр у Гродзенскай вобласці. **89**. Раздзел матэматыкі. **90**. Салдат у старой польскай арміі. **91**. Вера ў магчымасць ажыццяўлення планаў. **92**. Невялікая агародная расліна.

**Па вертыкалях: 1**. Савецкая антарктычная навуковая станцыя. **2**. Гарадскі пасёлак на Міншчыне. **3**. Музычны інтэрвал. **4**. Французскі лётчык з эскадрыллі «Нармандыя—Нёман», Герой Савецкага Саюза. 5. Пераноснае жыллё ў народаў поўначы Расіі. **6**. Ваенна-марскі сцяг, які падымаецца на караблі ў час якарнай стаянкі. **7**. Знакі ўшанавання, узнагарод. **8**. Буйнейшы горад у Турцыі. **9**. Індыйскі пісьменнік, аўтар сцэнарыяў папулярных фільмаў «Бадзяга», «Пан **420**». **11**. Нявыкарыстаная магчымасць, запас. **13**. Ансамбль з невялікай колькасці музыкантаў. **16**. Мінерал, якім шліфуюць металічныя вырабы, шкло. **17**. Малочны прадукт. **19**. Возера на Далёкім Усходзе Расіі. **20**. Краіна ў Закаўказзі. **21**. Праверачныя выпрабаванні па вучэбнаму прадмету. **22**. Балет А. Хачатурана. **27**. Самае глыбіннае возера ў свеце. **28**. Рускі кампазітар-класік, аўтар оперы «Жыццё за цара». **30**. Спалучэнне частак у адзіным стройным цэлым, у кампазіцыі будынка. **33**. Пазбаўленне уласнасці аднаго грамадскага класа другім. **34**. Ядомы грыб. **35**. Горад хімікаў на Гомельшчыне. **39**. Пісьменнік, аўтар крытычна-гумарыстычных твораў. **40**. Працэс разбурэння хвалямі і прыбоем берагоў мора, вадасховішча. **41**. Прыхільнік крайніх, рашучых дзеянняў, поглядаў. **42**. Расійскі даследчык Камчаткі. **43**. Паэтычны прыём, які характарызуецца паўтарэннем аднолькавых галосных гукаў у вершаваным радку. **44**. Горад на рацэ Аракс. **48**. Канат для ўзняцця флага на караблі. **49**. Літары кірылічнага алфавіта. **52**. Перадача зямлі органам самакіравання ў некаторых краінах. **54**. Перадача выявы прадмета або фігуры ў перспектыве. **57**. Вышэйшае вайсковае званне. **59**. Затрыманне суднаў або грузаў, якія належаць іншай краіне, у сувязі з палітычнымі ўскладненнямі. **60**. У часы Вялікай Айчыннай вайны: абаронца Брэсцкай крэпасці. **65**. Традыцыйная старая назва Грэцыі. **66**. Персанаж паэмы М. Ю. Лермантава «Дэман». **67**. Грашовая адзінка Партугаліі. **68**. Адзін з бакоў медаля, манеты. **69**. Былая назва Забайкалля і Прыморскага края Расіі. **72**. Распаўсюджаны метал серабрыстага колеру. **73**. Група музыкантаў для сумеснага выканання музычных твораў на розных інструментах. **74**. Армянскі кінарэжысёр, пастаноўшчык фільма «Надзвычайнае даручэнне». **79**. Лірычны вершаваны твор, пакладзены на музыку. **80**. Тытул імператара Японіі. **81**. Тэрмін, на працягу якога чалавек набывае пэўныя веды, спецыяльнасць, вопыт. **83**. Дэсертнае чырвонае віно. **84**. Дзяржава ў Прыбалтыцы. **86**. Несістэмная адзінка вымярэння адлегласці, неадэкватная ў розных краінах.

**Склаў Валерый ПІНЧУК.**
*г. Бабруйск.*

### Праверце, калі ласка, адказы

**Крыжаванка (23 мая). Па гарызанталях**: 1. Балалайка. 5. Віктарына. 9. Гастраном. 13. Марат. 15. Іркут. 17. Агент. 19. Клан. 20. Караганда. 21. Тахеометр. 22. Ірга. 23. Руан. 25. Жако. 26. Ірак. 28. Паяц. 29. Такт. 31. Шнэк. 32. Сабур. 33. Ладан. 34. Аргус. 35. Пікет. 37. Індык. 39. Акватыпія. 40. Дыдактыка. 41. Яраслаўна. 42. Фасоўшчык. 45. Лауб. 46. «Таня». 48. Кібальчыч. 51. Таган. 52. Алмаз. 52. Візір. 55. Флора. 57. Бібік. 59. Інія. 60. Нанпарэль. 61. Аўтагамія. 62. Капа. 63. «Уліс». 65. Сігнатура. 68. Махараджа. 71. Кава. 72. Селен. 73. Трыер. 74. Агдам. 75. Элінг. 77. Табар. 79. «Русалачка». 80. Готы. 81. Арэс. 82. Налівайка. 83. Літаратар. 86. Раванастр. 88. Зімародак. 91. Нарад. 92. Рэдан. 93. Шафер. 95. Дакор. 97. Допіс. 99. Трыер. 100. Гулі. 101. Алаў. 102. Нуда. 103. Арад. 104. Япет. 105. Ніка. 107. Сіноптыка. 109. Мадапалам. 111. Акын. 112. Арган. 113. Арляк. 114. «Норма». 115. Таратайка. 116. Апрабацыя. 117. Ратапрынт. **Па вертыкалях**: 1. Баркарола. 2. Аман. 3. Абак. 4. Анталогія. 5. Веласіпед. 6. Тара. 7. Раут. 8. Аргенціна. 9. Геаметрыя. 10. Тыгр. 11. Айні. 12. Мілашкіна. 13. «Манас». 14. Тавар. 15. Ідэал. 16. Таран. 17. Атака. 18. Транс. 24. Назалогія. 25. Журы. 27. «Карамболь». 28. Партытура. 30. Трос. 31. Шукальнік. 35. Пірыт. 36. Тыран. 37. Ікона. 38. Круіз. 42. Фунікулёр. 43. Шэін. 44. Кампаніла. 45. Лаўр. 47. Ялта. 48. Катамаран. 49. Амія. 50. Чарапашка. 53. «Віліс». 54. Робін. 55. Флірт. 56. Аўтар. 57. Біржа. 58. Калам. 64. Сепаратар. 65. Сера. 66. Тунг. 67. Арцыбашаў. 68. Металафон. 69. Арас. 70. Агні. 71. Какафонія. 75. Экран. 76. «Голад». 77. Тэатр. 78. Рабін. 83. Лейтэнант. 84. Алег. 85. Ракіроўка. 86. Рамантыка. 87. Рэпарацыя. 88. Завадатар. 89. Анод. 90. Кантынгент. 93. Шыпка. 94. Рубін. 95. Данка. 96. Русак. 97. Даман. 98. Спіка. 106. Арфа. 107. Сага. 108. Арка. 109. Мята. 110. Мода. 111. Амар.

У гэтай крыжаванцы, складзенай нашым чытачом Уладзімірам Шылкіным з г. Барань Віцебскай вобласці, было загадана 148 слоў — па 74 — па гарызанталях і вертыкалях.

**Крыжаванка-пераклад на рускую мову (30 мая). Па гарызанталях**: 1. Сверчок. 4. Простак. 7. Остановка. 10. Ветвь. 11. Локон. 12. Страж. 14. Лепёшка. 15. Видение. 16. Трезвон. 18. Зеркало. 20. Набат. 21. Обида. 23. Птица. 24. Гражданка. 25. Коляска. 26. Околица. **Па вертыкалях**: 1. Сеновал. 2. Честь. 3. Красота. 4. Проплав. 5. Оскал. 6. Копание. 8. Отопление. 9. Окончание. 12. Склон. 13. Жилет. 16. Тройник. 17. Надежда. 18. Забрало. 19. Окаёмка. 22. Абрис. 23. Пекло.

**Выпадак на горнай дарозе (30 мая).** Калі ўладальніка машыны выкінула з яе пры ўдары, то якім чынам ключы ад машыны тут жа апынуліся не ў замку запальвання, а ў яго кішэні? Гэта і насцярожыла Людовіка.

**Лікаграма (30 мая).** Адказ на яе гл. на малюнку.



### Крыптаграма



Спачатку разгадайце тры ключавыя словы. Потым, карыстаючыся літарамі ў іх, падстаўце ў малюнак крыптаграмы адпаведныя літары замест аднолькавых адпаведных лікаў. У выніку вы прачытаеце жартоўную народную прыказку.

а) 12-5-4-5-3-6-8-2 — квадра Месяца; б) 11-9-7-5-1— Летне-асенні меданос, дэкаратыўная расліна; в) 2-8-10 — экватарыяльнае сузор'е.

**Склаў Уладзімір ЭСМАНТОВІЧ.**
*г. Мінск.*

### Крыжаванка-блытаніна



Словы, якія трэба запісаць у клеткі крыжаванкі, ужо ёсць, але літары з гэтых слоў не тое, каб пераблытаны, а проста расстаўлены ў алфавітным парадку. Разблытайце гэтыя словы і запішыце іх.

**Па гарызанталях:** 5. Екппры. 6. Абднор. 8. Дезійкн. 10. Аемрц. 11. Аднры. 12. Гсця. 13. Агдр. 17. Енпся. 19. Гілуц. 20. Аклртуы. 21. Аклопц. 22. Акрсту.

**Па вертыкалях:** 1. Еппрўы. 2. Аезнп. 3. Ікмно. 4. Адклыя. 7. Аавй. 8. Аадінрц. 9. Аавклру. 14. Ейлнно. 15. Бгры. 16. Аавкло. 18. Арцыя. 19. Акруц.

**Склаў Уладзімір ЭСМАНТОВІЧ.**
*г. Мінск.*

## Post Factum

### Гэты дзень у гісторыі

- **Да гэтага дня** адносіцца першае ўзгадванне ў летапісных дакументах 1388 года горада Маладзечна.
- **6 чэрвеня 1599 года** нарадзіўся выдатны іспанскі мастак Дыега Веласкес.
- **6 чэрвеня 1799 года** нарадзіўся Аляксандр Сяргеевіч Пушкін, геніяльны класік расійскай літаратуры.
- **У гэты дзень у 1841 годзе** нарадзілася Эліза Ажэшка, выдатная польская пісьменніца, многія творы якой напісаны на беларускім матэрыяле. Найбольш значны раман — «Над Нёманам». Удзельніца паўстання 1863 года.
- **6 чэрвеня 1875 года** нарадзіўся Томас Ман, славуты нямецкі пісьменнік, нобелеўскі лаўрэат 1929 года.
- **У гэты дзень у 1888 годзе** з'явіўся на свет Валерыян Куйбышаў, вядомы савецкі партыйны і дзяржаўны дзеяч.
- **У гэты дзень у 1904 годзе** нарадзілася Таццяна Іванаўна Пельтцэр, народная артыстка СССР.
- **6 чэрвеня 1922 года** дэкрэтам Савета народных камісараў створана Галоўнае ўпраўленне па справах літаратуры і выдавецтваў (Галоўліт), якое адказвала за палітыку дзяржавы ў адносінах цэнзуры.
- **6 чэрвеня 1944 года** — адкрыццё другога фронту ў Еўропе. Саюзнікі пачалі высадку ў Нармандыі.
- **6 чэрвеня 1968 года** ў час правядзення перадвыбарчай прэзідэнцкай кампаніі быў забіты амерыканскі сенатар Роберт Кенэдзі. Пакінуў пасля сябе ўдаву Этэль з 11 дзецьмі на руках.

### Вось так...

***34-гадовы Кевін Узбер з каліфарнійскага горада Санта Ана, які спрабаваў украсці з мясцовай кандытарскай 4 снікерсы і некалькі ледзянцоў, быў прыгавораны суддзёй Джын Райнхаймер да... 26 гадоў турэмнага зняволення.***

Ён трапіў пад дзеянне так званага «закона трох пападанняў», прынятага ў Каліфорніі ў 1996 годзе. Гэты закон прадугледжвае вельмі суровае пакаранне для правапарушальнікаў, якія тройчы паўставалі перад судом. Да гэтага Узбер быў ужо двойчы асуджаны: у першы раз — за крадзеж з узломам, у другі — за ўзброенае рабаванне, але ў абодвух выпадках ён абыходзіўся кароткачасовым турэмным тэрмінам.

### Дзесьці на белым свеце

***Паліцыя паўночнага індыйскага штата Утар Прадэш арыштавала нейкага селяніна па імені Бабу Хан.***

Гэты чалавек тры гады таму ўзяў у адным з банкаў крэдыт на суму 500 долараў, каб адсвяткаваць вяселле свайго сына, але своечасова не змог выплаціць пазыку. Тады, скарыстаўшыся часовай адсутнасцю сына (той паехаў у горад на заробкі), Бабу Хан... прадаў нявестку суседу за 600 долараў. Гэтым ён змог вярнуць доўг банку і нават пакінуць сабе на жыццё.

### Цікава

***Пчолы «затрымалі» злачынцу ў адным з прыватных дамоў Бурзянскага раёна Башкірыі.***

Злодзей залез праз акно ў дом, забраў каштоўныя рэчы, у тым ліку тэлевізар, сярэбраныя лыжкі, футра гаспадыні і паспрабаваў выбрацца. Дарога ляжала праз агарод. Усё, напэўна б, закончылася добра для злодзея, калі б ён, спяшаючыся, не зачапіў сваімі клункамі адзін з вулляў. Устрывожаныя насякомыя тут жа абляпілі няпрошанага госця з ног да галавы. Яму давялося ўсё кінуць і ратавацца ўцёкамі.

У паніцы моцна пакусаны зламыснік заскочыў у дом, які толькі што абрабаваў. У гэты момант вярнуліся гаспадары, якія затрымалі яго і здалі ў міліцыю.

### І так бывае

***Калі ў сям'і з невялікага гарадка Мензялінск, што на Валагодчыне, прапала з двара каза, гаспадары, добра ведаючы цікаўную натуру сваёй Манькі, накіраваліся на пошукі па суседскіх падворках. Аднак рагатая як скрозь зямлю правалілася.***

Толькі на трэція суткі Маньку выпадкова знайшлі ў суседскім пограбе. Відаць, блудніца прабралася на двор праз дзірку ў плоце і, гуляючы на волі, правалілася ў падвал з запасамі капусты, морквы і буракоў. Палонніца так захапілася паяданнем далікатэснай агародніны, што не выдала ні гука! Але, як пазней высветлілася, не толькі гэтым тлумачылася маўчанне казы. У падвале знаходзілася кадушка з бражкай! Калі гаспадары спусціліся ўніз, Манька ляжала сярод качаноў капусты, а пах у паграбку стаяў, як у выцвярэзніку.

### І так было...

***Загадкавая гісторыя адбылася з амерыканскім касманаўтам Нейлам Армстронгам. У 1969 годзе, ледзь ступіўшы на паверхню Месяца, ён прамовіў: «Жадаю вам поспехаў, містэр Горскі...»***

Спецыялісты з Цэнтра кіравання палётамі не маглі зразумець, аб якім містэры Горскі гаварыў касманаўт. Пазней Армстронг расказаў, што аднойчы, яшчэ будучы дзіцем, ён, гуляючы ў хованкі разам з сябрамі, забег у двор да суседзяў, прозвішча якіх было Горскі. Праз адкрытае акно даносіліся крыкі скандаліўшых паміж сабой гаспадароў.

— Імпатэнт паршывы, — крычала місіс Горскі. — Суседскаму хлапчуку прасцей на Месяц злятаць, чым табе задаволіць жанчыну!

Калі Армстронг на самай справе ступіў на паверхню Месяца, у яго свядомасці раптоўна ўсплыла пачутая ў далёкім дзяцінстве рэпліка і ён, узрушаны неверагодным супадзеннем, нечакана для самога сябе і вымавіў недарэчную на першы погляд фразу.

### Анекдот

*Двое знаёмых сядзяць у кавярні.*
*— Жыццё падобнае на шклянку чаю, — задумліва кажа адзін з іх.*
*— Чаму? — здзіўляецца другі.*
*— Адкуль мне ведаць? Я што, філосаф?*

ЗАСНАВАЛЬНІКІ:
Савет Рэспублікі Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь,
Палата прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь,
Савет Міністраў Рэспублікі Беларусь

Галоўны рэдактар У. НАРКЕВІЧ.

Рэдакцыйная калегія: У. АНДРЫЕВІЧ (намеснік галоўнага рэдактара), І. БАРАНОЎСКІ, У. ГОЙТАН, Л. ЛАХМАНЕНКА, М. МІХАЕВІЧ (першы намеснік галоўнага рэдактара), А. МЯСНІКОЎ, Л. РЫЖАНКОВА (намеснік галоўнага рэдактара), С. ШАЎЦОЎ.

Рэгістрацыйны нумар 1.

*НАШ АДРАС: 220013, гор. Мінск, вуліца Б. Хмяльніцкага, 10-а, рэдакцыя газеты «Звязда». ТЭЛЕФОНЫ: прыёмнай — 68-29-19; намеснікаў галоўнага рэдактара — 32-44-12, 32-14-25, 32-35-05; аддзелаў: інфармацыйна-аналітычнага — 32-38-02, 68-28-14, 68-29-68, эканомікі — 32-31-21, 68-29-68, палітыкі — 68-28-69, 68-27-57, 68-28-64, культуры — 68-29-42, 68-28-27, пісьмаў — 68-27-47, маралі і права — 68-28-51, міжнацыянальных адносінаў — 68-27-40, 68-28-69, журналісцкіх расследаванняў — 68-28-38, 68-28-72, знешнеэканамічнай дзейнасці — 68-29-44; аглядальнікаў па праблемах: навукі і адукацыі — 68-28-31, экалогіі і ліквідацыі вынікаў Чарнобыля — 68-28-36; уласных карэспандэнтаў: у Гродне — 33-25-29, Гомелі — 53-13-92, Баранавічах — 7-26-02, Магілёве —31-13-75, Паставах — 26-562; бухгалтэрыі — 32-22-03; даведкі па рэкламе і аб'явах — 32-04-52, 32-31-98. ФАКС: 68-27-79. E-mail: daily@zwyazda.belpak.minsk.by*



Друкарня выдавецтва «Беларускі Дом друку». Мінск, праспект Ф. Скарыны, 79.
Тыраж 87.610. Індэкс 63850.
Зак. № 3466.
Выходзіць 250 разоў на год.
Нумар падпісаны ў 20.15.
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12